# Жыццё, якога няма



Мікола КАНАНОВІЧ

## На Каляды ў гаражах

*Снег ляціць імглісты і халодны.
Сёння ўжо Каляды на дварэ.
Ў гаражах сумуе пёс маркотны,
ды на працы з ім не сумна мне.*

*Свята. Праз адкрытыя вароты
ходзяць-ездзяць ўсе сюды-туды,
а я ў буржуйцы з вершамі блакноты
ў вечнасць адпраўляю назаўжды.*

*Паралельна Толю Санаценку
тут чытаю і на ім пішу.
Бо «Вяртанне на Радзіму»* ма́ю
і на ёй я вершамі грашу.*

*Ў дзень святы не свеціць мне тут сонца,
Каляда не пройдзе пад акном.
Толькі пёс загаўквае бясконца
на таго, хто свой пакінуў дом,*

*каб прыйсці ў гараж і набухацца
ды сабаку закусі не даць.
Людцы, як умеюць, весяляцца,
пакуль здольны на нагах стаяць.*

*Добрых ім Калядаў і надвор'я!
Ну і мне — каб снегу не грабсці!
І ў вахцёра можа быць застолле
ў першы дзень Калядаў, без куцці.*

***07. 01. 2023, Слонім***

## Зноў першы снег

*Снег ідзе пульхнаты і халодны —
пра такі раней я ўжо пісаў.
На платах, на дрэвах, на дрывотні,
на ўсёй вёсцы гэты снег ляжаў.
А цяпер ён сыплецца павольна
белаю халоднаю крупой
ды кладзецца шырака і вольна
на балота й горад за ракой...
Першы снег у Слоніме сягоння,
пра такі раней я ўжо пісаў...
Год за годам падае ў сутонне
часу першы снег, які растаў.*

***23. 11. 2023, Пятралевічы***

***

*20 траўня траплялa ў Жыровічы, —
Казала бабуля Маня, —
Выходзілі хрэсным ходам напярэдадні
І ішлі ўсю ноч, каб раніцай быць на месцы —
Маці Божая Жыровіцкая чакала...*

*Прадаўна ўжо гэта я чуў ад бабулі.
Вечным сном хадакі даўно тыя паснулі.
Баба Маня гадоў больш за 30 як спіць,
А ў Жыровічы шлях да Маці Божай ляжыць.
Дапаможа ікона? Абароніць абраз?.. —
Агменьчык надзеі цепліць там нас.*

***20. 05. 2023, Слонім***

***

*Гаўкаюць сабакі,
сонца устае.
Чорныя вароны
селі на траве.
Цёплы месяц ліпень,
асабліва днём,
сёлета усхліпвае
за старым гумном,
што за польскім часам
тут яшчэ было,
а ў Беларусі нашай
у зямлю пайшло.
Закапалі. З хатай
у зямлю пайшло —
жоўценькі пясочак, —
як і не было...
Цёплы месяц ліпень,
сонца устае,
гаўкаюць сабакі
ў роднай старане.*

***11. 07. 2023, Слонім***

## 20 гадоў

*Лета. Пятра і Паўла.
2023 год.
20 гадоў прамінула спраўна:
Коля + Іра = сям'я, род.*

***12. 07. 2023, Пятралевічы***

## Ехай, стрэха!

*Ехай, стрэха!
Ай-яй-яй!
Будзе смеху! —
Абганяй!*

*Дожджык цэдзіцца,
ільё,
дождж з вады
вяроўкі ўе,
што спускаюцца
са стрэхі...*

*Ехай, стрэха!
Стаяць не...й!*

***12. 06. 2023, Слонім***

***

*Імперцы душацца і душаць,
а наш спакой нішто не зрушыць.
У Беларусі сінявокай
чаканнем ўсе жывуць глыбокім —
калі ж падушацца яны?..
Каб зняць чужыя каптаны,
чужых паноў паразганяць
ды сваіх новых гадаваць.
...У Беларусі сінявокай
народ у одуме глыбокім.*

***24. 06. 2023, Слонім***

## На працы ў «Зорным»**

*У гаражах усё спакойна,
і хіліцца да сконy дзень,
туман кладзецца, быццам цень,
ліхтар успыхнуў, як агмень,
і хутка зноў глядзецьмуць вочы
у студзеньскую цемру ночы.*

***11. 01. 2023, Слонім***

***

*Сабакі мыюцца снегам
8 сакавіка.
Сняжынкі падаюць мехам —
бялее зямля.
Сяджу на дзяжурстве
ні добры, ні злы —
хачу ўжо пабачыць
канцоўку зімы.
А пакуль гэтым снегам
бяліць далягляд,
пра гаражных сабак
пішу неўпапад.*

***08. 03. 2023, Слонім***

* «Вяртанне на Радзіму» — кніга вершаў, перакладаў і зацемак Анатоля Санаценкі, на якой быў напісаны гэты верш.

** «Зорны» — гаражны кааператыў у Слоніме.

***

*Сакавік. 25-ае.
Неба хмарамі сцятае.
Пасвянціў зямлю дождж,
не было б толькі больш,
бо напярадзе дзень
адбівацьме мой цень
ад роднай зямлі,
скуль снягі ўжо сплылі...
І так хочацца сонца,
каб свяціла бясконца
Беларусі і люду,
дзе я быў, ёсць і буду.*

***25. 03. 2023, Слонім***

***

*Садзяць дрэвы на няўдобіцы
кожны год.
Дрэвы сохнуць ад бяскорміцы
там штогод.
Але плошчы вызваляюцца,
то — садзяць зноў...
Так між люду утвараецца
клас дубоў.*

***14. 04. 2023, Слонім***

***

*Самагон плюс віскі, старка —
пайшла напоўніцу запраўка,
стала добра, а назаўтра
пахмяліцца было варта.
Піва, віскі і гарэлка —
стала п'янкаю пахмелка.
Раз мы толькі п'ем ў жыцці,
прычашчаемся,
усё астатняе жыццё —
пахмяляемся.*

***04. 03. 2023, Слонім***

***

*Схаваўся вецер у косах бярозы.
Сонцам заспеты голы і босы
дзень пачынаецца раніцай траўня
яркі, зялёны, вясновы дазвання.*

***20. 05. 2023, Слонім***

***

*Разбуджаны ветрам
і музыкай мухі,
слухаю гукі:
вецер на вуліцы,
у хаце жужжанне.
Ранак. Світанне.*

*Лета разгар ды яшчэ
не палова,
цэлы йшчэ сонца
пагрэе па-новай,
і дождж, што на суткі
быў зарадзіў,
не раз яшчэ вернецца
ўсім нам наўздзіў...*

*Чакаюць цяпло, лес,
грыбы, ураджаі
ўсіх, хто не згубіцца
ў нашым раздраі
ды выжыве ў родным
да болю тут краі
й каго не забралі.*

***29. 06. 2023, Слонім***

## Сны

*«Мама памерла жывая і мёртвая», —
хтосьці сказаў мне ў сне.
Я прачнуўся.
Зоркі на небе яшчэ свяціліся,
я ў стук сэрца свайго занурыўся.
Яшчэ адна восень.
Холад, хоць сонечна днём.
Бязлюддзе ў душы,
і ў краіне бязлюддзе.
Я ў родным краі стаю слупом
і не ведаю, заўтра мае
ці тут будзе?
Мне сняцца сны,
у якіх многа людзей:
землякоў маіх, родных,
сяброў і блізкіх,
а наяве яны —
тло былых падзей
ды сцежак жыццёвых,
крутых і слізкіх.
Мы спяшаемся некуды
ў снах маіх
ці ўцякаем ад злыдняў
у форме чорнай,
якія страляюць па нас на слых,
і мы нават у снах
пра маўчанне помнім.
Але гэтыя словы ў апошнім сне:
«Мама памерла жывая і мёртвая», —
ці то клічуць свечку
паставіць ў царкве,
ці на стрэл адказаць
чаргою доўгай?*

## Востраўская элегія

*Ранак халодны.
Мёртвая муха
прыліпла да шыбы ў акне.
Кастрычнік бязлюдны.
У Востраве глуха.
Людзей не сустрэнеш нідзе.
Большасць на могілках.
Нехта на працы
ў Міжэвічах ці дзесь яшчэ.
Зеўраць пустэчай месцы ад хатаў,
закопаных тут па вясне.
Крыж-небарака стаіць непакрыты
гадоў мо чатыры ці пяць.
Лапу пад крыжам падыме сабака —
няма каму нават прагнаць.
Восень у Востраве.
Смутак і ціша.
Мінулае бачыш ярчэй,
якое ніяк ужо не перапішаш,
каб выглядаць прыгажэй.
Яшчэ вінаград тут
і смачныя грушы
сёння чакаюць цябе.
А ў лесе Кракоцкім
схаваўся ад сушы
грыб прыгажэйшы, чым дзе.
Тут твая Мека, краю твой родны —
лягчы б тут назаўжды!
Але і ў смерці не будзеш свабодны
выбіраць сабе месца, клады.
Хоць на Востраўскіх могілках
месцаў хапае,
іх бясплатна пакуль раздаюць,
ды пры жыцці мала хто выбірае,
а па смерці — бліжэй павязуць
закапаць у зямлю
ўжо вечнай радзімы,
якую пакінуць не змог...
Ды прагнеш жыцця,
пакуль крышку хоць жыў ты,
і вабіць бацькоўскі парог.*

***02.10.2024, Вострава***

***

*Світанак. Віднее позна.
Піліпаўка любіць ноч.
Мокры снег кладзецца павольна
на чорны асфальт наўзбоч.
І быццам — не так і цёмна
ў восені на душы,
і дыхаць, здаецца, вольна
ў гэтай сусветнай глушы.
Зачыненыя вароты —
ніхто не спяшыць сюды
ў сціснутыя шыроты,
дзе на замку раты
ў панурых тубыльцаў сслоты,
якіх чакае зіма,
салюты, Каляды, шпроты
і жыццё, якога няма.*

***25. 11. 2023, Слонім***

# Вялікая вайна. Хроніка адной мясцовасці

## Старонкі рамана



Янка ТРАЦЯК

Стась Андраловіч не стаў адкладваць працу. Пакуль было добрае надвор'е і не было яшчэ пільных клопатаў (сеяць трохі ранавата), ён ад самага ранку пачаў капаць за хатай. Трэба было выкапаць такую яміну, каб у ёй вольна маглі размясціцца сем чалавек. Зверху капаць было лёгка, а пасля пайшоў суглінак, пясок, каменне і гліна. Яму дапамагаў старэйшы сын Антось, хоць і невялікі быў памагатар, але, тым не менш, як дарослы завіхаўся з рыдлёўкай, капаў, разграбаў пясок і выкідваў дробныя камяні.

Яму сваю капаў Стась тры дні з перапынкамі на гаспадарчыя працы, а на чацвёрты дзень засталіся толькі пабочныя работы: зрабіць уваход, столь і ляжанкі, абкултурыць яе і абжыць.

Не ведаў Стась таго, што за гэтыя дні адбылося ў свеце, і таму моцна здзівіўся, калі на чацвёрты дзень сваёй працы каля ямы раптоўна ўбачыў, як нейкіх прывідаў, валаснога старасту, вусатага прystава і пяць незнаёмых асобаў: чатырох у вайсковай форме, — хто іх там разбіраў паводле звання і чыноў. Стася больш уразілі іх пагоны гарохавага колеру: у аднаго з чырвонай папярэчнай палоскай, у другога — з прадольнай, а ў двух астатніх былі чыстыя пагоны; пяты быў у цывільнай вопратцы: у паліто і пад капялюшкам.

Іх такі нечаканны прыход не заўважылі ані дзеці, якія круціліся тут жа, ані ён сам.

— Што, человече, дабро хочаш спратаць ад государства Росейскаго? — заместа прывітання спытаўся станавы прыстаў.

— Тут бы самому схавацца, — прабурчаў у адказ Стась, вылазячы з ямы.

— Ат государства Росейскаго не сховаешся...

— В-во!.. Ад вайны б схавацца, ваша высокабродзе, — удакладніў Стась.

— I ат вайны не схаваешся... Везде найдзём!..

— Дзяцей бы схаваць...

— Как я понял, в прятки будем играть, — заўважыў з нецярпеннем адзін з вайскоўцаў і дастаў нейкія паперы. — Сховаешся — не сховаешся... В могилах спрячетесь... Если никто никуда не уезжает — дело надо делать...

Стась больш пільна агледзеў вайскоўца: «Казакі, відаць, і гэты ў іх, за старшога, і пагоны ў яго з зорачкамі...»

— А гэта... Куды трэба ехаць і што гэта за дзела такое? — спытаўся на ўсякі выпадак Стась, хаця і так было зразумела, што на падворак збеглася нейкая новая чарговая камісія.

— Рэквізіцыонная камісія! — урачыста абвясціў вусаты прыстаў. — Я же абещал табе кагда-та...

— Дык што, няўжо так дрэнь справы ў рускай арміі, калі па два-тры разы на тыдзень пачалі хадзіць такія камісіі? — спытаўся Антось.

— Дрень-не дрень — специальная вайсковая стратегия! — шматзначна адзначыў другі вайсковец. — Кстати, поручик Шмыгельский, член комиссии уезда по военно-конской повинности.

— А русская армия непобедимая! — заявіў урэшце і трэці незнаёмец у цывільным і тыцнуў Стасю пад нос нейкую паперыну.

Стась нават не паспеў знайсці знаёмыя літары, як той тут жа стаў зачытваць з паперы спецыяльны ўказ, паводле якога выходзіла, што тым, хто заставаўся ў прыфрантавой зоне, дазвалялася трымаць у гаспадарцы аднаго каня і адну карову, месячны запас мукі, зярна і фуражу.

Больш за ўсё людзей абураў гэты «месячны запас» і яго норма. Хто мог ведаць, што будзе праз месяц?!.

— Божией милостью Император Николай Второй и Самодержец наш всё знает, — пераводзіў стрэлкі ў невядомасць той, пад капялюшкам.

— А калі на месяц не хопіць нормы?.. Ці калі праз месяц скончыцца запас, а сітуацыя з вайной не зменіцца, тады, як? — пытаўся Стась.

Дарэчы, такія пытанні ставілі ўсе, і Стась прыкладна ведаў, што яму будуць гаварыць.

— Вот тогда и будем думать... Цар наш Росейский, Король Польский и Финский и прочае, прочае, нечто придумает, — слаба суцяшаў паручык. — Не так ли, господин сотник?

— Так ли! — адгукнуўся казак з пагонамі ў тры зорачкі і прадольнай палоскай. — Мы исполняем царские приказы! — з нейкай пагрозай дадаў ён.

— Царския! — падкрэсліў з ганарлівасцю валасны старшыня. — О! Ваша броўддзе! — і тыцнуў пальцам у неба.

— Так, хто хоча, можа прыйсці, спаслацца на царскія загады і абабраць чалавека да ніткі! — бурчэў Стась. — Я павінен звярнуцца да юрыстага!

— Звяртайся хоць да міністра, хоць да самога цара-бацюшкі, — спакойна адрэагаваў станавы прыстаў. — А наконт юрыста... Іванавіч, пакажы яму яшчэ раз сваю бумагу!

Той, пад капялюшкам, дастаў некалькі папер з царскімі пячаткамі, двухгаловымі арламі і шматлікімі подпісамі. На адной з іх Стась убачыў здымак і прачытаў: «судебный пристав».

— Не хвалюйся, больш даведзенай нормы ніхто браць не будзе, — растлумачыў судовы прыстаў.

— Гэта ён і ёсць юрысты? — Стась здзіўлена паглядзеў на капялюшык і палез у кішэнь па махорку. — Дзе ўладзіцца юрыста, хату вымяце да чыста...

— Ты чё там гундосиш? — падскочыў да яго прыстаў з растапыранымі вусамі.

— Ат, так... у кніжках пішуць...

— Я табе дам кніжку!.. В огонь надо бросать такия книжки!.. — і прыстаў падсунуў пад самы нос Стасю пераканаўчы класічны жандарскі кулак.

Старшыня воласці і афіцэры сталі звяраць свае паперы, а два салдаты ў гэты час рабілі звычайны агляд (вобшук) у хаце, у хляве, у адрыне, у склепе. Усё, што камісія лічыла лішнім, пакавалася на фурманку. Казалі людзі, што такога не бывала, каб камісіі нічога не вынеслі з хаты і не вывелі якой-небудзь жывёліны з падворка. Зразумела, што людзі хавалі дабро, але добрыя спецыялісты, як сабакі-вышукальнікі, знаходзілі тыя хованкі, і тады забіралі ўсё пад чыстую.

У Стася на гэты раз забралі два мяхі жыта і вывелі сяголетняга бычка, а ў замен далі дзве квітанцыі. А да наступнага іх прыходу абавязалі падрыхтаваць воз сена. Стась страшэнна быў абураны з такой абавязалаўкі.

— А ты паспрабуй спачатку гэты воз накасіць! — даводзіў ён нешта «юрыстаму», але той, быццам між іншым, нагадаў:

— А знаете ли вы, что по законам военного времени мы вас можем арестовать за саботаж и сопротивление государственным властям?

— Гэта вы можаце, — без гарачага імпэту прагаварыў Стась. З большага, ён быў задаволены тым, што не забралі ані каня, ані павозкі, а гэта ў гаспадарцы было галоўным...

Не суцяшальнымі былі навіны з фронту. Розныя нарыхтоўшчыкі з мястэчка, з Ашмяны і Смургоняў, якія з надыходам лета яшчэ больш актывізаваліся, украдкай гаварылі пра тое, што за апошнія два месяцы — за травень і за чэрвень — руская армія не мела ні адной важнай і стратэгічнай перамогі, што рускія цалкам выціснутыя з Курляндыі, здаюць пазіцыі ў Ковенскай губерні і ў Галіцыі; нямецкія войскі і саюзнікі захапілі Лемберг (Львоў) і вядуць паспяховыя наступальныя баі ў кірунку Луцка, Ковеля і Брэст-Літоўска, што значныя вайсковыя рэзервы сцягваюцца вакол Варшавы і Вільні. І калі так будзе далей, дык немца трэба будзе ўжо ўвосень чакаць у Крэве, у Багданоўцы і ў Дойневічах.

Толькі маршалак шляхты, яго высокаблагароддзе пан Дабржынскі, не верыў у такія пагалоскі і папярэджваў сваіх работнікаў, што за распаўсюд падобнай інфармацыі аб паразах рускай арміі ўжо некалькі чалавек у павеце аштрафавалі і пасадзілі ў турму.

З Гародзькаў Крыжовымі Дарогамі ўсё часцей і часцей сталі цягнуцца вайсковыя пешыя і конныя калоны на Крэва, на Баруны, на Ашмяны... Былі гэта нарыхтоўча-гаспадарчыя фармаванні, якія займаліся зябеспячэннем фронту. І ўсе разумелі: ідуць насустрач кайзераўскім войскам. А ўжо праз нейкі тыдзень-другі адны вайсковыя часткі ішлі ў адзін бок, другія — у другі, а трэція сталі яшчэ глыбей акопвацца ў наваколлі.

Надыходзіла гарачая пара сенакосу. Людзі хваляваліся: каб не прыйшлі тыя немцы раней, як пакосім, бо не дадуць пакасіць альбо адбяруць накошанае... А тут важна было не страціць час, бо калі ў нізіне сенажаць пакасіць у час і ў час вывезці, дык можна было нават тры пакосы ўзяць. Праўда, трэці пакос не заўсёды ўдавалася добра высушыць, але затое яго і скармлівалі ў першую чаргу. А сёлета не хацелася нават і першага пакосу браць, бо пад вялікім няведаннем былі пытанні фронту, магчымасці выжывання і магчымасці трымаць карову, а тым больш — каня. У вёсцы не беспадстаўна пайшлі гуляць чуткі пра прымусовую эвакуацыю. А туды з сабою карову і каня не забярэш — не дадуць. А без іх — як жыць?..

На палудзень уся сям'я збіралася за сталом — такі быў парадак. Антаніна ставіла пасярэдзіне стала два саганы: на гэты раз — адзін з халадніком са шчаўя, і другі — з варанай бульбай у лупінах. У такую гарачынь лепшай яды не прыдумаеш. Адно дрэнна, што можаш з'есці некалькі літраў такога халадніка і паўсагана бульбы і застацца галодным. Таму і невыпадкова, калі лыжкі зашкрабалі па днішчы саганчыка з халадніком, Стась пайшоў у камору і дастаў са скрыні засыпаны соллю невялікі кавалачак саланіны.

— Добра папрацавалі — трэба добра і падсілкавацца, — амаль урачыста абвясціў Стась. — Тым болей, што трэба самім як мага хутчэй даядаць, пакуль юрыстыя не дапамаглі даесці...

Увогуле, у сялянскай сям'і саланіна не была вялікім дэфіцытам, і на кожным падворку бегаў парсючок альбо парачка, але цяпер нешта раптоўна зніклі парсючкі...

— Нехта ідзе! — трывожна абвясціла дачка Марылька, гледзячы ў вакно.

— Няхай сабе, — абыякава адгукнуўся Стась.

— Мы пасля з бацькам паядзім, — сказала маці Стася, і бацькі выйшлі з-за стала.

Есці на вачах чужых людзей лічылася непрыстойным, таму Антаніна хуценька накінула на стол шырокі абрус.

На парозе неўзабаве адзін за адным з'явіліся тры незнаёмыя постаці ў вайсковай форме з пагонамі.

— Здравия желаем! — прывіталіся дружна.

— І вам таго жалаем, — Стась адказаў за ўсіх і падумаў пра тое, што нейкая дзіўная мода ў гэтых ваякаў: заходзіць у хаты тады, калі людзі палуднуюць.

А той ваяка, у каго на пагонах прыгожа выдзялялася чырвоная, шырокая папярэчная нашыўка, дастаў з планшэты нейкую паперыну і пачаў удакладняць прозвішча, адрас, наяўнасць у гаспадарцы пабудоў, павозкі і жыўнасці.

— Ваша благароддзе, на днях была ў нас гэтая камісія, і юрысты былі, — паспяшаўся бацька праінфармаваць вайскоўцаў. — Забралі скаціну, зярно, бульбу, сена... Засталося пару курэй, карова і адзін кот...

— Разберомся, — важна адказала «ваша благароддзе».

Стась глянуў у тую паперу і ўсё зразумеў. На гэты раз «пажалавала» яшчэ адна вайсковая спецкамісія. Чуў ён пра гэтую камісію — спецыяльна створаная ў прыфрантавой паласе з вайскоўцаў і забірае ў людзей, у асноўным, коней, павозкі, харч і цёплую вопратку. Калі не хочаш аддаваць каня з возам, можаш ехаць сам, куды скажуць, а не, дык і на фронт могуць паслаць — паўнамоцтвы ў такой камісіі былі вельмі вялікія. Зразумела, што яе абсалютна не цікавіла цывільная рэквізыцыйная камісія і яе паборы: ваенныя маглі забраць і апошняга каня і апошняе зярно — усё роўна скардзіцца не было каму, бо забіралі паводле нейкіх афіцыйных папераў, у якіх, быццам, сцвярджалася, што ў такіх і такіх вёсках і мястэчках можна праводзіць «забор» маёмасці і жыўнасці. Пад жыўнасць, відаць, трапляла і мясцовае насельніцтва, бо яго калі не сілаю высялялі, дык ставілі ў такія умовы, што выжыць яно тут фізічна не магло. У Мялэйкаве, да прыкладу, на днях наляцела некалькі такіх камісій, і кожная нешта патрабавала і адбірала, пакуль было што адбіраць — толькі рыдлёўкі пакінулі, і цяпер ганяюць салдаты ўсіх, і старых і малых, акопы рыць тымі рыдлёўкамі...

— Гаспадзін афіцэр, бацька праўду кажа, — спакойна пацвердзіў Стась. — Былі нядаўна ў нас... Антаніна, пакажы квіткі...

— Господин фельдфебель, — адрэкамендаваў сябе той і дадаў. — Но можно и господин офицер... А кто у вас был — нас не интересует... Мы же не были...

— Пераканаўча! — кіўнуў галавой Стась. — А што будзем забіраць?

Непатрэбнае было пытанне, бо і так усё зразумела.

— Мы посмотрим...

— Глядзіце... — і Стась адгарнуў абрус і абыякава, спакойна невялікімі кавалачкамі пачаў наразаць саланіну.

А што там было ўжо глядзець... Стась пасля апошняга прыходу юрыста ўпарадкаваў па досвітку астаткі дабра, і так упарадкаваў, што самому трэба яшчэ добра падумаць, дзе што можна знайсці.

Фельдфебель стаяў каля вакна і ўглядаўся ў свае паперы, а два маладыя хлопцы ў новенькай вайсковай форме, якая тырчэла на іх, быццам з чужога пляча, хуценька абгледзелі «дабро», зірнулі ў хлеў, паветку, склеп, і адзін з іх неўзабаве далажыў пра каня, павозку, карову, свінню і курэй. Другі — пра запас прадуктаў: бульбы, зярна, агародніны, саланіны, сушаных грыбоў, — усё, што было ў склепе і ў каморы. «Продовольствия» паводле яго падлікаў — не больш, як на тыдзень...

Фельдфебель усё запісаў у свой блакнот, дапісаў адрас, прозвішча і нават хату нанёс на нейкі план. У квітанцыі, якія яму паднесла Антаніна, нават не зірнуў.

— И вот ещё до продовольствия... — салдат прадоўжыў свой даклад і паставіў на стол бутэльку, закаркаваную газетай.

«Апароў, сабака», — нядобра падумаў пра яго Стась. Бутэльку гэтую ён перад самай вайной быў набыў на ўсякі выпадак, і як на лякарства. Цяпер гарэлкі добрай не дастаць: бровары і манапольні пазачынялі, праўда, можна было б купіць з-пад палы дэнатуратную самагонку, але піць яе — такая гадасць...

— Паночкі, можа, вы прыселі б да стала? — нечаканна прапанавала Антаніна. — Дзеці, марш за печ!

Дзеці моўчкі выйшлі з-за стала і пайшлі за шафу. За імі моўчкі пайшла маці і пасунуўся паціху бацька.

— А чё? А чё бы не присесть?! — быццам бы толькі і чакаў такіх запросін фельдфебель і хутка прысеў на шырокую лаўку. — Тем более, что... — і кіўнуў на бутэльку.

За ім прыселі і маладыя салдаты.

Заканчэнне на стар. 7 »

# Вялікая вайна. Хроніка адной мясцовасці

## Старонкі рамана

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Пра тое, што рускія салдаты часта галадаюць у сваіх акопах, ведалі ўсе, і, часам, шкада было салдатаў. Але тут цяпер цэлыя арміі такой галоты стаіць у Багданоўцы, — усіх не пракорміш… Нават сам маршалак шляхты пан Дабржынскі не пракорме…

Стась без вялікага імпэту адкаркаваў бутэльку, дастаў з прыпечка тры кілішкі (больш не было), сабе трохі плюхнуў у кубак.

Фельдфебель ускочыў і прагаварыў:

— А давайте вып’ем за нашу победу над германско-кайзеровским империализмом!

— За победу! — падтрымалі астатнія салдаты, ускочылі і ўсе спрытна апустошылі кілішкі.

Прыўзняўся над сталом трохі і Стась, выпіў, хаця не быў ён вялікім аматарам такога пітва. Салдаты адзін за адным адламалі па маленькім кавалачку хлеба і, як на прычасці, кінулі, не спяшаючыся, у рот.

— Здалёку? — запытаўся Стась.

— Волжские мы! — адказаў фельдфебель.

— Гэта там, дзе мужык бабу кінуў за борт? — удакладніў свае веды ў геаграфіі Стась.

— …В набежавшую волну… Не совсем чтобы, но примерно там, — фельдфебель, а за ім і астатнія злёгку ўсміхнуліся.

Фельдфебель быў, прыкладна, такіх гадоў, як і Стась. Было відаць па ім, што ён ужо трохі паваяваў, і два медалі на яго выцвілай гімнасцёрцы пацвярджалі, што паваяваў ён не кепска.

— Даўно на вайне? — зноў пытаўся Стась.

— Я с первого дня… Стреляный воробей. От Франкенау, что в Восточной Пруссии, иду… Слышал, может? — ён пытліва паглядзеў на Стася.

— Не, не прыходзілася…

— А эти, вообще, новобранцы… КМБ[1] проходят…

Стась зноў наліў.

Фельдфебель устаў і ўрачыста прагаварыў:

— За нашего великого государя Царя-Батюшку Николая Второго! — і, адкінуўшы галаву трохі назад, імгненна перакуліў кілішак.

— За великого государя Царя-Батюшку! — падтрымалі навабранцы, ускочылі і таксама выпілі.

— Хлопцы, годзе вам скакаць, — не вытрымаў Стась. — Сядзьце, як людзі, і закусіце.

Салдаты прыселі.

— А вы как жить будете дальше? — пацікавіўся ў сваю чаргу фельдфебель.

— Неяк будзем, — не зусім ахвотна адказаў Стась.

— Я в смысле… будете эвакуироваться, или как?

— Паглядзім!

— Ваш предводитель дворянства собирается уезджать, — паведаміў фельдфебель. — Отдаёт нам свой дом под временный командный пункт и лазарет…

— Дабржынскі?! Вось гэта навіна! — усклікнуў Стась.

Пра Дабржынскіх хадзілі чуткі, маўляў, жонка, пані Марыя з Баліцкіх, цягне пана ў Адэсу — там уся яе радня. І іх можна было зразумець — двое дзяцей да пяці гадоў на руках…

— А вы думаеце, што немцы дойдуць сюды? — спытаў незнароку Стась.

— А этого никто не знает…

А што мог іншае сказаць гэты фельдфебель…

— Закусвайце, хлопчыкі, — зноў прапанавала Антаніна.

Яе параду першым скарыстаў Стась: ён узяў скрыдлачка саланіны, паклаў на лусту хлеба і, быццам дэманструючы, адправіў яе на месца прызначэння. Вайскоўцы ўважліва прасачылі ўсю працэдуру, асцярожна паўтарылі яе, а пасля, асмялеўшы, сталі ўплятаць саланіну так, быццам пяць дзён не елі. Урэшце адзін з навабранцаў і пытаецца:

— Слышь, хозяин, а чё это мы такое едим — беленькое, вкусненькое, деликотесное и, главное, с таким приятным благоуханием?

— А што, вы раней такога не елі?

— Не приходилось что-то…

— Да, интересно знать, — праявіў цікавасць і другі навабранец.

— Ат, — адмахнуўся Стась і на поўным сур’ёзе: — У агародзе расце… Вясною пасадзіш — восенню выкапаеш…

— В огороде? — здзівіліся навабранцы і дружна зірнулі ў акно на агарод.

— Где?

— Там, — Стась махнуў рукой. — Во саду лі, в огороде…

— Слышь, хозяин, а оно как размножается, корешками или семем?

— Ну, калі карашок, як ты кажаш, добры, дык ім…

— А если не добры?

— Тады семем… ёсць гэтыя, самкі і самцы…

— Как интересно!.. Самкі, самцы…

Фельдфебель здзіўлена паглядзеў на Антося, і той яму непрыкметна міргануў.

А з-за печы, дзе сядзелі дзеці, данослася хіхіканне і прыглушаныя выбухі смеху.

— Слышь, хозяин, а как это так сделать, чтобы и у нас на родине посадить и развести такой плод, а? — навабранцы, відаць, зацікавіліся не на жарты далікатэсам.

— А вы родам адкуль?

— Тамбовские мы. У нас трава в рост человека… Коровы, овцы, козы…

— Тады не прыжывецца, — сур’ёзна заявіў Стась. — У вас, у тмутаракані, зямля не такая…

— А если с землёю посадить?..

А колькі вы той зямлі ў кішэнях возьмеце?.. — засумняваўся Стась.

— А кишени — это чё, сумка?

— Гэта як для каго: для адных гэта — сумка, для другіх — кішэні…

Дзеці сядзелі за печчу і чулі тую гаворку. Калі яшчэ хлапцы — Антось і Бронька — цярпелі і сціскалі смех у сабе, дык Марылька не вытрымала — неяк гучна і дзікавата захахатала, выскачыла з-за печы і кінулася ў дзверы.

— А чё это с ней? — здзівіўся фельдфебель.

— Ат, анічога, — неахвотна прагаварыў Стась. — Прыпадачная яна ў мяне…

— А это чё?

— Ну, як вам сказаць…

— Как есть, так и говори…

— Дык есць яна добра… мяса, бульбу — усё есць, толькі давай, а пасля на розум прыпадае трохі…

— Это как?

— Гэта так, як конь, калі прыпадае, скажам, на нагу, дык ён кульгае, а яна, вось, на розум…

— На разум?.. На ум, что ли? — здагадаўся адзін з навабранцаў.

— Ну, на вум! Наесца вось гэтага, як ён кажа, «беленькага, вкусненькага» — і на вум… дурнее, калі прасцей казаць…

Тут ужо і Бронька не вытрамаў і з такім жа нездаровым рогатам кінуўся ўслед за Марылькай.

— А этот чё, тоже ненормальный? — насцярожана запытаў другі навабранец і паклаў недаедзены кавалак саланіны на край стала.

— Ненармальны, — кіўнуў галавой Стась. — Таксама гэтае любіць есці…

Тут ужо і Антось не вытрымаў: захоўваючы больш-менш сур’ёзны выгляд, прамаршыраваў да дзвярэй.

— Да я смотрю, они здесь все ненормальные! — абурыўся фельдфебель, ускочыў з-за стала і пачаў гучна харкацца і пляваца.

Астатнія таксама вылезлі з-за стала і моўчкі накіраваліся да выхаду, а на парозе фельдфебель павярнуўся і тонам, які нічога добрага Стасю не прадвяшчаў, прагаварыў:

— Хозяин, если с нами чё случится плохое — тебе будет хуже…

— Ну, ну! Дык жа — вайна!.. Куды ўжо «хужэ»…

— А это возьмём на экспертизу, — сказаў фельдфебель і спрытна схаваў сярод сваіх папераў недапітую бутэльку.

А калі за імі зачыніліся дзверы, Стась разважліва прагаварыў:

— Ну вось, болей не прыйдуць…

— Мыляешся, сынок, — адгукнуўся з-за печы бацька. — Не гэтыя, дык іншыя прыйдуць, а калі гэтыя аблaсаваліся саланінай, дык будуць хадзіць, пакуль будзеш мець, як пацукі…

Гасла пра тое, як Стась хацеў атруціць далікатэсамі вайсковую рэквізацыйную камісію і што з гэтага выйшла, хутка абляцела ўсю вёску і ваколіцы.

А праз два дні прыйшлі ажно дзве камісіі: цывільная і вайсковая. Прыйшлі ў суправаджэнні станавога прыстава, валаснога старшыні, пісара і трох знаёмых ужо Стасю вайсковых рэквізітараў — усяго шэсць чалавек.

— Ого! Ажно колькі юрыстаў! — усклікнуў Стась, калі ўбачыў натоўп гасцей на ганку.

— А што, а я табе не казаў… абласаваліся, — выказаўся бацька. — Цяпер ужо іх не пракорміш…

Гутарку распачаў прыстаў пра тое, што да яго дайшлі чуткі, як Стась спрабаваў атруціць прадстаўніцтва ваеннай рэквізацыйнай камісіі. Паводле законаў ваеннага часу гэта ёсць дыверсія, тэрарыстычны акт і падвяргаецца суроваму пакаранню. А дзеля гэтага неабходна правесці крымінальна-следчы працэс.

— Праводзь сабе, — абыякава буркнуў Стась і запытаўся ў знаёмага фельдфебеля:

— Як здароўечка ў пана афіцэра пасля далікатэсу?

— Разберёмся счас!

— Так, так! Разбяромся! — заверыў прыстаў. — А счас раскажите, как обстаяло дело! Потерпевшие, вам слово!

— Было произведена попытка отравления личного состава солдат русской армии, временно исполняющих обязанности членов военной реквизиционной комиссии, неопределённым веществом белого цвета, — далажыў фельдфебель.

— Імеется поползновение к подлогу! — удакладніў прыстаў.

— Ды ніхто не поўзаў падлогай, — паспяшалася заверыць Антаніна.

— Виновный, что имеете в подтверждение сказанному?..

Стась не адразу зразумеў, што прыстаў звяртаюцца да яго.

— Гэта я вінаваты ў тым, што іх частаваў і карміў? — здзівіўся Стась.

— Ты, кормчий, счас за всё атветиш, па законам военнаго врэмені! — пагрозліва насунуўся прыстаў, і яго вусы гэтак жа пагрозліва натапырыліся на Стася.

— Ну, мы палуднавалі, а яны прыйшлі, — распачаў тлумачэнні Стась. — Мы пасадзілі іх за стол, і елі яны і пілі разам з намі, што Бог паслаў… ніхто нікога не труціў.

— Представьте нам вещественное доказательство! Что именна паслал Бог в то врэмя и что вы вкушали в тот день? — запатрабаваў прыстаў.

— Тут варта было б у Бога спытацца, — пачаў было Стась, але прыстаў рэзка прыкрыкнуў:

— Не богахуль, мерзопакасник! Гдзе вещественныя доказательства белага отравляющага вещаства!

— Якія «даказацельства»?.. Паелі ўсе даказацельствы…

— Значыцца, следы атравляющага вещаства уничтожаны умышленно! — урачыста заявіў прыстаў. — Тем хуже. Так и запишам.

— Стась, не дурніся, — сур’ёзна заўважыў бацька. — Прынясі ім кавалачак той «атруты»!

Там гэтай «атруты» заставалася хіба што на адзін раз «атруціцца» ўсёй сям’ёй, і такі невялічкі шматок пакідаў ён старым бацькам і дзецям.

Антаніна моўчкі прынесла невялічкі кавалачак і паклала на стол. Прыстаў напачатку доўга і прыдзірліва нюхаў саланіну, пасля адрэзаў скрыдлачка і памалу стаў жаваць.

— Это? — запытаў ён у вайскоўцаў, і тыя заківалі галовамі.

Пасля кожны, апрача вайскоўцаў, узяў ножык і адрэзаў сабе «паспрабаваць атрутнага вяшчэственнага даказацельства».

— Без хлеба — яно не надта каб ідзе, — даў зразумець валасны пісар.

— А яшчэ лепш пад гарэлачку! — удакладніў старшыня воласці, і яны з задавальненнем зарагаталі.

— Няма гарэлкі, — паспачуваў Стась.

— Как жаль, как жаль, — пашкадаваў і прыстаў.

— А ты ж неяк раней медавуху рабіў? — успомніў старшыня воласці.

Старшыня воласці на тое і старшыня, каб ведаць, дзе хто што робіць. Так, не шэнціць апошнім часам воласці на старшынь. Раней быў Былінскі — хадзіў з чырвоным носам і заўсёды добра паддаты. Пан Дабржынскі, як толькі стаў маршалкам павету, змяніў яго на Ражанскага, які падаваў вялікія надзеі, але, стаўшы старшынём воласці, не ўтрымаўся ад хмяльной дармавой спакусы, якой кожны хацеў яго пачаставаць, і гэтак жа стаў хадзіць, як і яго папярэднік — вечна «на весяле».

— Дык дзе твая медавуха? — нагадаў старшыня.

Так, рабіў Стась медавуху з астаткаў зімовай падкормкі пчолам і пазалеташняга прыкіслага мёда (не выкідваць жа вон), але пры апошніх падзеях было не да медавухі. Таму і стаяў гэты забыты бідон з медавухай у куточку, прыкрыты розным шмаццём.

— Ці не тут яна? — прыстаў спрытна скідваў шмаццё з бідона.

Стасю заставалася толькі падаць куфаль.

— О! — усклікнуў радасна прыстаў і пацягнуўся першы да куфаля.

Антаніна ў гэты час паклала на стол амаль што палову бохана хлеба.

— Это, господа, местное сало, а не отрава! — тлумачыў прыстаў вайскоўцам, адхлёбваючы з куфаля. — Такое вы можете испробовать только здесь. Будзем считать, что инцидент почти исчерпан… — шматзначна і весела прыстаў глянуў на куфаль і падмігнуў Стасю.

— Але яшчэ не вычарпаны! — праверыў валасны старшыня бідон і пераняў куфаль з рук прыстава.

Пасля гэтага ўжо не вытрымалі і вайскоўцы, чэрпалі, пілі і елі… і саланіны з хлебам не стала.

— Інцыдэнт не толькі ісчэрпаны, але і з’едзены, — заўважыў стары бацька. — Толькі, гаспада, не зусім зразумела мне, чаму вы, ваша высокародзе, сказалі, што такое «можно іспробовать толькі здзесь» — у іншых сала таксама можа быць?..

— Не перажывай, отец, паспрабуем і ў другіх, — паабяцаў прыстаў, а пасля дастаў іншыя паперы, і гутарка пайшла пра рэквізіт.

На гэты раз лішнім у Стася быў толькі адзін мех бульбы. Тамбоўскі салдат лёгка ўскінуў яго на плечы і пайшоў, трохі хістаючыся, у бок сваіх пазіцый у Глінішчы.

— Ты поймі мяне правільно! — даводзіў добра захмялелы прыстаў на адыходзе. — Я із’ясняю… Я должен што-та взять, понімаешь… Дабы не было повадно другім… Іначе какой с меня толк… понімаешь?..

— Панімаю, панімаю… — гаварыў Стась.

Фельдфебель таксама дастаў быў свае паперы, але тут жа махнуў на іх рукой, засунуў назад у планшэтку і заявіў:

— Хозяин, нам вот этого, — паказаў на бідон з медавухай. — С-с-с сабою!

— Забірайце! — махнуў рукой і Стась.

Другі салдат узяў бідон і пайшоў, таксама хістаючыся, следам за першым.

— Толькі посуд мне прынясі, тамбовец! — крыкнуў услед яму Стась.

З хаты выйшлі з песняй «Боже, царя храни»…

---

[1] КМБ — курс маладога байца.

# З-пад шатаў Айчыны



Галіна ТВАРАНОВІЧ

### Акацыя

*Ситтимовое дерево изъ породы акацій*
*(Исх. XXI, 5. Исх. X, 19)*
*«Библейская энциклопедия», М., 1891*

*Госцяю выдаеш сябе*
*побач з бярозай і ліпай,*
*недаверлівае дрэва,*
*шанаванае самім Саламонам*
*у яго вялікасным Храме*
*спаміж кіпарыса, мірты*
*і кедра ды іншых абраных*
*дрэў у сонечнай Палесціне.*
*Абачліва-мудра вычэкваеш,*
*калі ж завеі суцішацца*
*задушна-духмянай чаромхі —*
*спадарожнікі сталыя*
*прымаразкаў вясновых,*
*свавольства грознага*
*у лёсе квета з лістом...*

*А мне няймецца ў трывозе*
*аблашчыць стан пакручасты.*
*Няўжо зімовыя сцюжы*
*у глыбінях твой корань*
*працялі наскрозь і абыякавае*
*дарэшты табе тут усё, што*
*разгортваецца, спадзяецца й верыць,*
*і адляцеў твой таемны дух*
*з-пад шатаў мае Айчыны*
*ад бярвёнаў бацькоўскае хаты*
*у вечным маім Дараганаве...*
*Нат подых гэтае згадкі*
*мяне вярэдзіць тугой,*
*нязвыклаю й а д т у л ь н а й.*
*Я мрою — альбо ўспамінаю?..*
*Мая рука кранае з пяшчотаю*
*дрэва-сітцым у даліне Сітцым...*

***

*Адтуль,*
*здалёк,*
*дзе яшчэ золак, світанне,*
*а карэньчыкі Дрэва Галгофскага*
*да глыбінь перасохлых смела*
*імкнуць пад ствалом маладым*
*ахвярнага Дрэва Гасподня,*
*натоўп праследуе прага:*
*«Месію, Бога — у ззянні і славе!»*

*Сёння, на захадзе сонца —*
*т о л ь к і зіхоткая Чаша*
*у збалелых руках.*
*Натоўп вар'яцее ад смагі.*
*Над Зямлёю — магутныя шаты.*

***

*Ён наперад ведае*
*кожны мой уздых —*
*не тое, што стогн.*
*І нешта такое ведае,*
*чаго мне цяпер пабачыць*
*нельга нават здаля,*
*бо звыш майго зроку.*
*Ён — беражлівы, спагадлівы,*
*а я шчымлюся за ласкаю*
*і ў пару шарай гадзіны,*
*што сам-насам мушу адбыць...*

*Шчаслівая!*
*Магу сабе дазволіць*
*уздыхаць і стагнаць —*
*даверлівае дзіця*
*ля ног*
*Бацькі-Бога.*

***

*Калі ў ракавіну цёмную жамчужніцы...*
***Максім Багдановіч***

*У жамчужніцы свету*
*сціплай пясчынцы —*
*як патрапіць, паспець,*
*ці суджана й мне*
*жомчугам стацца*
*між іншых, больш вартых,*
*прасякнутых светлаю воляй*
*Світання...*

***

*Далягляд губляецца ў высях.*
*Удзячнасць да слядоў Тваіх складаю.*
*Горняга і дольняга абшар яднае шчасце —*
*Твая сляза, ахвяра й ласка свету.*
*О Хрысце, памажы галінцы кволай*
*утрымаць пладоў цяжар жаданы...*

***

*Гасподзь Бог,*
*Які спазнаў гэты свет,*
*акром як дотыкам, зрокам, слыхам,*
*найперш недасягальнай пакутаю*
*Спаса й Збавіцеля Адзінага, —*
*Сам Любоў,*
*дае прыклад любові*
*да таго, што сябе адмаўляе*
*несупынным, бясконцым памкненнем*
*у відавочнасць знікнення,*
*крэсліць і адчужае, вымучвае*
*і разам — не спасцігнуць! — навучае,*
*як у Любові знайсціся*
*смакоўніцаю не пустой —*
*з плодам.*

### Услед маме

*Пакуль спяць дарагія нашы,*
*у твой бела-сіні кубак —*
*залацісты пасак наўсцяж,*
*наліваю ранкам гарбату*
*насупраць прыцїхлае хаты.*
*Радая сябе падмануць,*
*што да шыб не я датыкалася,*
*бачу твар твой у вакне кожным...*

*Тады ўначы асмяглае горла*
*не наталіла апошнюю смагу*
*і найсмачнай нашай вадою,*
*як ні стараліся вочап, вядро*
*і я з жураўлём над студняю...*

*Пяшчотны водар плыве*
*з лёгкім дотыкам промняў ці рук.*
*Урaселая мята гусцее*
*над сцежкай да яблынь і груш.*
*Залацісты пасак наўсцяж*
*бела-сіняга кубка твайго...*

***Галіна Паўлаўна ТВАРАНОВІЧ 17 лютага адзначае пашанотны юбілей. Сардэчна жадаем ёй радасці, вясновасці і натхнення!***

# Матчына камізэлька



Валеры ГЕРАСІМАЎ

### Абярэгі мае...

*Абярэгі мае, абярэгі, —*
*Беражыце,*
*Пакуль*
*Ёсць*
*Патрэба.*
*А калі*
*Патрэбы не стане,*
*Дык настане*
*З жыццём*
*Расстанне!*

### Келіх

*Келіх выпіў*
*Віна —*
*І*
*Верш гатовы.*
*Бог*
*Альбо*
*Д'ябал*
*Укладуць у твае вусны*
*Патрэбныя словы.*
*Не любіў ты жыццё*
*І жанчын*
*Не кахаў —*
*Значыць,*
*Вый ці не вый,*
*Не направіш*
*Ты спраў.*
*Бо не сам выбіраў*
*Напрамак*
*Жыцця,*
*Проста плыў,*
*Быццам трэска,*
*Па хвалях быцця.*
*Дык жа плач,*
*Лямантуй*
*І круці сівы вус —*
*Мо й заслужыш яшчэ*
*Ты сабе*
*Сабантуй...*
*Без усякіх прымус.*

### Матчына камізэлька

*Апранаю матчыну камізэльку*
*І бы ў бранi сябе я адчуваю,*
*За небакраем, недзе там далёка —*
*Скруха,*
*А мне ўтульна, —*
*Матуліна бо сэрца грэе*
*Скрозь завеі*
*І каматозы духу,*
*Ад сусветнай сцюжы*
*Яна аберагае —*
*Камізэлька,*
*І перарвацца не дае*
*Мелодыі*
*Жыцця майго,*
*Што грае*
*Беларуская жалейка.*

***

*Калі рана-раненька*
*Ў полі*
*Сонца ўжо*
*Не бачыш болей,*
*Калі краскі цябе не хвалююць,*
*Калі душу тваю не руйнуюць*
*Гора смерці і плач людзей —*
*Няма сэнсу крычаць*
*Пра вайну,*
*Ускладаць на кагосьці віну,*
*Няма сэнсу пра мір гаварыць, —*
*Калі сэрца твае не баліць.*

### Жывеш

*Жывеш — жывi,*
*Памрэш — памры,*
*Але жывеш ты*
*Для чаго?*
*Памрэш — таксама*
*Для каго?*
*Жыццё натхняе,*
*Смерць збаўляе*
*Ад усяго —*
*На што чакаў,*
*Каго кахаў,*
*І што любіў.*
*Наўздзіў,*
*Табе цяпер усё роўна,*
*Што баўоўна,*
*Што шкловалакно.*
*Жыццё згарэла,*
*Не кіно,*
*Дзе кадры*
*Ты глядзіш, смакуеш,*
*Сябе рыхтуеш*
*Да справаздачы*
*Перад жонкай,*
*Ці на працы.*
*Тут інačай —*
*Сябе рыхтуеш*
*Да выпрабавання —*
*Як стаць*
*Прад Збаўцам...*

### Эпітафія

*я пахаваны тут*
*разам з ёю —*
*сваёю мрояй*

### Люты

*Хай бы люты*
*Цягнуўся бясконца,*
*Хай бы*
*Як мага больш*
*Не было*
*Ў нас сонца.*

*Мо*
*Тады б*
*Мы ў Сусвет*
*Зазірнулі,*
*Паглядзелі*
*І зразумелі,*
*Што нельга бясконца*
*Жыць без сонца.*

### Паветра

*Гэта — наша паветра:*
*Паветра высокага неба,*
*Паветра роднага хлеба,*
*Паветра чыстага снегу,*
*Паветра цёплага сонца,*
*Якому свяціць бясконца!*

### Апошні беларускі ваўкалак

*Я — апошні беларускі ваўкалак,*
*Бо жыццё маё пайшло неяк не так,*
*Не па-чалавечы і не па-авечы —*
*Неяк больш па-воўчы,*
*А быў жа добры хлопча.*
*Так, раней быў такім, як і ўсе:*
*Басаном я гуляў па расе,*
*Беларускія песні складаў, —*
*І не думаў і не гадаў,*
*Што ўва мне звярыная існасць*
*Пераверне ўсю рэчаіснасць.*

*Я па кроплях губляў сваю кроў,*
*Калі ў пасткі лавілі сяброў,*
*І я збег — прочкі ў свет,*
*І цяпер я — ваўчыны паэт,*
*Я — апошні беларускі ваўкалак.*

*Вось той дуб, пад якім нарадзіўся,*
*Вось і маці-ваўчыха —*
*Ды сніцца*
*Мне заўсёды*
*Адзін дзіўны сон —*
*Быццам я — чалавек,*
*А не звер.*

*Бацька мой —*
*Воўк з ваўкоў усёй зграі*
*А мне снілася: ён — Мікалай,*
*Той Святы, што Хрыста ўсхваляў,*
*І ў юдолях*
*Людзей зваў*
*Да волі.*

*Па балотах бягу і бягу,*
*Разганяю сваю тугу,*
*Я — апошні беларускі ваўкалак.*

*Я назад павярнуць не магу,*
*Дый навошта:*
*У людзей,*
*Як і ў нас — у звяроў,*
*Льецца кожынны дзень*
*чалавечая кроў.*

### Княства рыфмаў

*Я жыву ў княстве рыфмаў,*
*Ты жывеш у царстве сноў,*
*Не магу я разабрацца —*
*Дзе каханне, дзе любоў.*

*Толькі час усё расставіць*
*Па сваіх належных месцах —*
*Ці вясна любві настане,*
*Ці — каханне напрадвесні.*

*І на ростанях расстання,*
*Дзе жыццё ўпрэцца рогам,*
*Зноўку вернецца каханне,*
*Павядзе любві дарогай.*

# Тры жаданні



Лявон ВАЛАСЮК

## 1.

Анатоль, малады цёмнавалосы мужчына, увесь ускудлачаны, з разгараным чырвоным тварам, выскачыў на ганак старога «польскага» дома, у якім жыў прымаком з жонкаю Наталляю і малымі дзецьмі (сынам Паўлам, старэйшым, і дачкою Валяю), і залемантаваў п'яным голасам у бок дома суседа Максіма:

— Ідзі, рабі з ёй што хочаш! Яна твая!..

Амаль адразу ў праёме дзвярэй за яго спінай з'явілася моцная з выгляду бабуля Марыя, якая цвёрдаю рукою схапіла мужчыну за плячо і пацягнула назад. За дзвярыма падняўся шум, пачуліся крыкі, загрымеў аб падлогу посуд, зазвінела разбітае шкло…

У старым прыватным сектары горада дамы́ стаялі цесна, таму не было вялікім сакрэтам тое, што адбывалася па суседству. Трэба сказаць, маладзейшыя жыхары гэтым не надта замарочваліся, у адрозненне ад людзей больш сталага веку.

…Максім, студэнт мясцовага ўніверсітэта, Анатолевай істэрыкі не чуў. Пра гэта яму расказаў сусед з чатырохкватэрнага «белага» дома насупраць. Як выявілася, Анатоль, будучы на добрым падпітку, моцна пасварыўся са сваёй Наталляй і ў стане дзікай рэўнасці крычаў на ўсю вуліцу. Мужчына быў перакананы, што Наталля, якая да замужжа сустракалася з суседам Максімам, і пасля вяселля працягвала гэта рабіць. Анатоль памыляўся. Так, за Максімам вёўся стары грэх, хлопец па-ранейшаму халасцякаваў, але, па-першае, ва ўніверсітэце было дастаткова прыгожых дзяўчат, а па-другое, працягваць рамантычныя адносіны з Наталляй ён лічыў непатрэбным з розных на тое прычын.

Вабная, чарнявая суседка Максіма напамінала хлопцу яе нябожчыцу маці, якая памерла ад моцных апёкаў. Здарылася так, што яе муж Мікалай, выкідваючы з дому ўспалымнелы кірагаз, размахнуўся — і вогненны струмень паляцеў у твар жонцы, якая паварочвала з-за вугла дома. Занялося адзенне… Дактары не выратавалі Таццяну. Прыціснуны горам і пачуццём віны, муж-удавец праз некаторы час з'ехаў жыць на сваю радзіму ў Расію. Дзеці, сын Генадзь і дачка Наталля, засталіся на выхаванні бабулі Марыі і дзеда Паўла. Праз два гады стары памёр, і бабулі давялося выхоўваць унукаў адной. Мікалай прыязджаў рэдка, ды і то часцей за ўсё праводзіў час за куфлем піва ці бутэлькай віна ў садзе пад яблынямі… А дзеці павырасталі, займелі свае сем'і, кожная з якіх засталася жыць у сваёй палове драўлянага «польскага» дома.

…Калі Максім адыходзіў у войска, бацькі наладзілі яму провады, на якія акрамя радні былі запрошаны аднакласнікі і блізкія сябры, у тым ліку і Наталля, равесніца Максіма, са старэйшым братам Генадзем. Гэта былі звычайныя таварыскія адносіны маладых людзей, якія выраслі ў суседніх дварах.

Ужо познім вечарам, калі амаль усе госці разышліся-раз'ехаліся, Наталля далікатна паклала руку на плячо будучага воіна, гарэзна ўсміхнулася:

— Давай прагуляемся крыху, — прапанавала яна. — Мы два гады не пабачымся. Я буду сумаваць па табе. Гэта так рамантычна… — дзяўчына павярнулася да Максіма спінай, узяла за рукі так, каб таму закарцела крыху прыабняць яе і сагрэць.

Наталля даўно з дзявочай цікавасцю паглядала на суседа, які ёй падабаўся ўсё больш. А вось так, каб пабыць удвох — усё не атрымлівалася.

Майскі вечар быў цёплы, ціхі. Прыгожа цвілі абрыкосы і чарэшні. Праз некаторы час маладыя людзі апынуліся ў ціхім завулку, куды не трапляла святло ліхтароў, прыпыніліся каля старой таполі. Максім стаў спінаю да старога камля, абняў суседку, прытуліў да сябе і далікатна пацалаваў. Гарачая кроў біла ў скроні, хацелася нечага незвычайнага, невымоўнага і непазнанага. У парыве жарсці Максім ухапіў дзяўчыну за талію, прыціснуў да дрэва і пачаў цалаваць цяпер ужо прагна, кранаючы рукамі яе пругкія грудзі. Дзяўчына адказвала ўзаемнасцю, сціскаючы свае рукі на ягонай шыі. Набраўшыся смеласці, хлопец правёў рукамі па сцёгнах, далікатна кранаючы трусікі. Наталля не праціўлілася, а толькі бліжэй прыціскалася да яго. Максім адчуваў моц яе маладога цела, якое непераадольна прагла ўзаемнасці…

Ім было па-сапраўднаму добра ў той вечар пад старымі дрэвамі. Колькі часу прайшло — ніхто не ведаў.

Раніцай бацькі правялі Максіма да прызыўнога пункта. Наталля не прыйшла, і ён яе разумеў.

## 2.

Неяк, вяртаючыся дамоў пасля працы, непадалёк ад «Блакітнага Дуная» (так у народзе называлася невялікая, пафарбаваная ў адпаведны колер пабудова, дзе можна было выпіць піва і віна, закусіць, правесці час у прыемнай кампаніі), Анатоль натрапіў на Максіма, які блукаў па горадзе пасля ўніверсітэцкіх заняткаў.

Быў акурат канец верасня, стаяла сонечнае надвор'е. Анатоль запрасіў Максіма выпіць за добрае суседства, за тое, каб ніколі не ўзнікала паміж імі аніякіх непаразуменняў. Анатоль быў не мясцовым, аднекуль з усходу. Малады мужчына пацяху асвойваўся на новым месцы, ажаніўшыся з суседкаю Максіма неўзабаве пасля вяртання таго са службы (іх звяла Анатолева сястра Надзея, якая працавала разам з будучаю жонкаю).

Непадалёк ад «Блакітнага Дуная», схаваны ад староннiх вачэй трыма чыгуначнымі насыпамі, размяшчаўся знакаміты ў раёне «Трохкутнік» — прасторная, зараслая кустоўем і адзіночнымі дрэвамі паляна з неглыбокаю сажалкаю пасярэдзіне. Туды часцей заглядвала моладзь, каб аддацца сваім маладым уцехам, але, бывала, наведваліся і людзі сталага ўзросту, асабліва пасля «палучкі».

Мужчыны сядзелі на беразе сажалкі на дыване шматколернага апалага лісця і размаўлялі. Максім не быў на вяселлі Анатоля, пры сустрэчах яны перакідваліся адным-двума словамі, і яму хацелася бліжэй пазнаёміцца з суседам-прымаком, бо, што ні кажы, суседзі — найбліжэйшая радня.

— Добрая сёлета восень, прыгожая… — пачаў Анатоль пасля таго, як выпілі за сустрэчу па шклянцы недарагой саладжавай настойкі. — У такую пару добра ладзіць вяселлі.

— Твая праўда, — згадзіўся Максім, — мой старэйшы брат таксама ажаніўся восенню. На жаль, на тваім вяселлі я не быў, але зайздрошчу вам абоім. Зычу доўгага і шчаслівага сумеснага жыцця!.. За гэта і вып'ем!.. — прапанаваў Максім. Чокнуўшыся, ён няспешна апаражніў шклянку і пацягнуўся па глазураваны пернік.

— А ты чаму не жэнішся? — запытаў Анатоль, нібыта нешта прыпомніўшы.

— Паспееца яшчэ. Спачатку трэба атрымаць дыплом, уладкавацца на працу, а пасля можна будзе і пра сям'ю падумаць, — па-філасофску адказаў Максім. — Хоць, прызнаюся, гледзячы на вас, я задумваюся пра гэта ўсё часцей. А ты малайчына, — пахваліў ён суседа, — правільна зрабіў. Твая пара́ прыйшла. Спадзяюся, што ў вас усё будзе добра. За гэта і вып'ем!..

## 3.

Ішоў час. У Анатоля і Наталлі непрыкметна падрасла, вырабілася ў вабную прыгажуню дачка Валя. Яна добра вучылася ў школе, паступіла ва ўніверсітэт. Як і ў Наталлі, у дачкі былі цёмныя вочы, вялікія і прыгожыя грудзі, якіх яна нібы саромелася. Ці гэта толькі здавалася?..

Валю часцяком можна было бачыць на падворку, дзе яна займалася гаспадарчымі справамі, дапамагала маці. А можа, ёй хацелася паказаць сваю «дарослась» перад маладжавым суседам, які халасцякаваў пасля няўдалай жаніцьбы. Дзяўчатам, якія толькі-толькі пачынаюць усведамляць сваю жаночую сутнасць, уласціва чакаць увагі з боку не толькі аднагодкаў. Валянціне яшчэ задоўга да паўналецця было чым прыцягваць хлапечую і мужчынскую ўвагу. О, гэтыя грудзі-званы, што так прывабна калыхаліся пад сукенкаю!

«Замуж пара яе аддаваць, каб пры мужыку была, дзяцей нараджала, а то перагарыць з такім багаццем…» — не аднойчы чуў Максім ад Валінага бацькі.

«Так то яно так…» — згаджаўся Максім, які не раз лавіў на сабе пранiклівы пагляд маладой суседкі, якая на яго вачах пераўтваралася ў сапраўдную прыгажуню. Яму і самому час ад часу карцела кінуць погляд на суседскі двор, калі падымаўся на ганак ці выходзіў з дома альбо корпаўся пад капотам старога аўтамабіля. Сядзібы аддзяляла толькі невысокая агароджа, лёгкія веснічкі амаль ніколі не зачыняліся, бо як старэйшыя, так і малодшыя жыхары кожнага дома не адзін раз на дзень тапталі сцежку туды-сюды. Прыязнымі суседскія адносіны былі яшчэ з таго самага часу, калі бацькі Максіма заклалі падмурак свайго новага дома.

Ля хлеўчыка на сядзібе Анатоля і Наталлі пад павеццю стаяла шырокая лаўка, дзе мужчыны пачувалі сябе ўтульна за бутэлькай піва ці чаго мацнейшага. Здараліся і спрэчкі. Усялякага хапала, пакуль Анатоль з сям'ёю урэшце атрымаў кватэру ў іншым канцы горада. Але і тады нядаўні «кватарант» з жонкаю і дачкою нярэдка прыязджалі да бабулі Марыі, якая ўсё яшчэ трымала такуюсякую гаспадарку.




Фота pocket.com

Заканчэнне на стар. 10 »

# Тры жаданні

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9


Фота А. Прудскага

Аднаго разу, летам, Валя, студэнтка-старшакурсніца, прыехала адна. Бабулі на той час было ўжо нямала гадоў, і яна толькі досвіткам, пакуль не душна, ды на зыходзе дня магла займацца нейкімі гаспадарчымі справамі. У іншы час яна часцей за ўсё адпачывала, рэдка паказваючыся ў двары.

Дзяўчына звязала ў вянкі цыбулю, вымела з хлеўчыка смецце, пасля, заўважыўшы Максіма, паклікала суседа дапамагчы перанесці з-пад павеці ў будыніну выгаралую распісную скрыню. Максім пагадзіўся, толькі спытаў, ці ёсць дома хто са старэйшых, на выпадак, калі двaім не справіцца.

«Бабуля адпачывае, а я сёння прыехала адна, каб не марнаваць вольны час...» — вірліва зіркнуўшы на Максіма, прамовіла дзяўчына. Яна падышла да скрыні з боку Максіма, нахілілася. Прыгожыя, стройныя ногі агаліліся настолькі, што мужчынскаму ўяўленню было не цяжка дамалёўваць усё іншае для паўнаты ўспрымання карціны. Пышныя грудзі дзяўчыны, здавалася, яшчэ крыху — і вываляцца на скрыню.

Максіма нібы працяло токам, ён знерухомеў ад нечаканасці. Валя, не разгінаючыся, азірнулася і паклікала:

— А дзе вы падзеліся, я чакаю...

Яна нахілілася яшчэ ніжэй, усміхнулася гэтак жа гарэзна, павабліва, шматзначна, сагнула левую нагу ў калене.

Максім, стараючыся трымаць сябе ў руках, падышоў з другога канца і, нахіліўшыся над скрыняю, прыўзняў свой бок. Скрыня аказалася лёгкаю, таму яе лёгка было перанесці бліжэй да канапы, на якой летам хаваліся ад спёкі.

— Добра тут у летнюю задуху пасядзець, — сказала дзяўчына. Яна рашуча ўзяла Максіма за руку, прытуліла яго даланю да сваіх гарачых грудзей і, не адпускаючы, павяла да канапы.

Мужчына не чакаў такога павароту падзей, але падпарадкаваўся, не адняў рукі. Ён адчуваў, што губляе над сабой кантроль, робіць нешта не тое, і ў той жа час баяўся пакрыўдзіць маладую суседку, якая гаварыла і гаварыла пра сваё, дзявочае, тулячыся да яго.

Тое, што адбылося далей, пралятала нібы адно імгненне, але слоду ад яго застаўся ў Максімавай памяці надоўга, калі не назаўсёды. Яны былі дарослымі мужчынам і жанчынай, адгадвалі і спраўджвалі патаемныя жаданні адно аднаго. А яшчэ было відаць, што Валянціне даўно хацелася блізкіх адносін з адзінокім суседам, усё яшчэ прывабным, у маладой сіле. І яму самому, няхай і адганяў грэшныя думкі, таго хацелася.

**4.**

Вераснёвае сонца залаціла валасы дзяўчыны, якая няспешна ішла насустрач Максіму, засяроджаная на нечым сваім. Мужчына даўно не бачыў яе так блізка, хаця і жылі побач. Мала што разгледзіш за высокаю агароджаю. Ды і навошта? У кожнага сваё асабістае жыццё. Раней за невысокім рэдкім штыкетнікам нічога нельга было схаваць. Аднак мяняюцца часы, мяняюцца і людзі, абжываюцца, будуюць дамы, узводзяць двухмятровыя загароджы. Як жа падобна Святлана да сваёй маці Валянціны і бабулі Наталлі, якая ўсё яшчэ не растраціла былой прывабнасці! Як і маці, Святлана ўспадкавала ад бабулі шыкоўныя цёмныя валасы і моцныя жаночыя грудзі. Да ўсяго яшчэ глыбокія чорныя вочы, гнуткую постаць і грацыёзнасць у руху. Міма гэтакай прыгажосці нельга прайсці абыякава... Ды што ўжо там гаварыць: яна ў імгненне вока забірае ў палон, пазбаўляе розуму...

Так і цяпер. Дзяўчына ўразіла мужчыну-суседа сваёй маладой жаночай сілай, акруглымі голымі плячыма і моцнымі грудзьмі, якім было цесна пад белаю «вадалазкаю». Святлана апусціла вочы долу, невядома чаго засаромеўшыся суседа, з якім нечакана апынулася на адной сцежцы. Максім таксама разгубіўся: што можа думаць пра яго гэтае дарослае дзіця, калі старэйшыя жанчыны прыадкрылі ёй таямніцы сваёй маладосці.

Такой самастойнай і дарослай Максім сваю юную суседку яшчэ не бачыў: усяго за год-другі, як выйшла з-пад бацькоўскай апекі, пасталела, папрыгажэла яшчэ больш. Хоць, здавалася б, куды ўжо!.. Адным словам, нявеста, хоць заўтра замуж выдавай, каго хочаш ашчаслівіць.

Праз некалькі дзён пасля выпадковай сустрэчы Святлана нецярпліва пастукала ў дзверы Максіма Васільевіча. Мужчына не чакаў пабачыць яе тут. Можа, што здарылася — калатнулася сэрца. Так было толькі аднойчы, калі памерла Надзея Іванаўна.

— Я ключ зламала ў замку, — патлумачыла Святлана свой прыход. — Маці на працы, бацька ў камандзіроўцы. Не магу зайсці. Зрабіце што-небудзь!.. — дзяўчына хвалявалася, і ад гэтага рабілася яшчэ больш прыгожай. Ад таго, што хутка ішла, высока падымаліся грудзі, вочы блішчэлі ад хвалявання.

— Зараз, зараз, пачакай, толькі прыхаплю інструменты, — Максім накіраваўся ўслед за дзяўчынаю праз старыя, ад вуліцы, веснічкі. Яна хоць і спяшалася, але прыгожа і роўна ступала на высокіх абцасах, час ад часу папраўляючы шыкоўныя валасы.

Нарэшце Максім справіўся з замком, адчыніў дзверы. Святлана хуценька скокнула за парог, папрасіўшы Максіма пачакаць. А той і не спяшаўся, даводзіў да ладу замок, каб не падвёў яшчэ раз.

— Максім, а прайдзіце да нас, — пачулася з глыбіні дому. — Я хачу пачаставаць вас каваю, — апошнія словы Святлана прамовіла ўжо, стоячы ля парога ў лёгкай летняй сукенцы.

— Не адмоўлюся, пахваліўшся сваімі поспехамі ды пра жаніхоў раскажаш, якія яны цяпер, — паспрабаваў пажартаваць Максім.

Па даўняй звычцы Максім павярнуў да кухні, але Святлана запрасіла яго ў агульны пакой, дзе на невялічкім століку ўжо чакала пахучая кава.

— Я вам дабаўлю каньяку, — прапанавала дзяўчына; не чакаючы згоды, яна зграбна наліла ў шклянку моцнага напою, прыўзнялася і нахілілася, каб дастаць з краю стала і паставіць бліжэй парэзаны лімон. Максіма асляпілі прыгожыя дзявочыя грудзі, якія, здавалася, яшчэ крыху — і выслабаняцца на волю. Папярэджваючы магчымы казус, дзяўчына спрактыкаваным рухам паправіла шлейку сукенкі і, нібыта нічога не адбылося, наліла каньяку сабе і госцю ў асобныя кілішкі, запрасіла выпіць.

Максім ужо дакараў сябе за тое, што пагадзіўся на каву, але ўцякаць было позна, бо пачастунак шчыры, ад душы. Калі б не дапамог, так і змарнавала б дзяўчына паўдня пад дзвярыма.

Пасля некалькіх чарак мужчына злёгку расслабіўся. Пазбаўляючыся няёмкасці і ўсё больш адкрыта ловячы позірк прыгожай суседкі, слухаючы яе бесперапынны шчэбет, ён адчуваў сябе як на даўнім спатканні ў бары прэстыжнага рэстарана. Святлана паводзіла сябе смела, і ў яе асобе Максіму бачылася Валянціна, такая ж рашучая і раскаваная. Урэшце гаспадыня прапанавала госцю патанчыць, уключыўшы музыку яго маладосці. Максім і тут не адмовіўся: кава з каньяком маладзілі цела, стваралі настрой, словы Святланы пра тое, што ў сапраўдных мужчын не бывае ўзросту, дзейнічалі як ніколі пераканальна...

— Каб толькі твая маці не застала нас на танцполе, — затрывожыўся Максім.

— Не хвалюйцеся, у нас яшчэ многа часу, а дзверы я замкнула: трэба ж праверыць вашу працу.

— Ну і як я спрацаваў? — падыграў Максім, адчуваючы, што гарачая хваля паглынула ягонае цела, адазвалася шумам у галаве.

— У нас ёсць нагода праверыць, — Святлана мацней прытулілася да мужчыны, абдымаючы яго...

Такога націску Максім не чакаў, а ўсё далейшае адбывалася нібы ў вясёлкавым ранішнім сне. Прасторная канапа, пагоркі грудзей, гарачае дыханне і такія ж, паўшэптам, гарачыя словы пяшчоты, мерны адлік шчаслівых імгненняў маятнікам старога насценнага гадзінніка...

«Што ж такое робіцца?!. — думаў Максім, паволі вызваляючыся з моцных абдымкаў Святланы, такой жаданай, такой вабнай сваім прыродным хараством маладой чараўніцы. — Ці гэта ўсё не са мною?»

А памяць высвечвала прыімглёныя часам вобразы Наталлі і Валянціны. Ён быў удзячны ўсім. У розныя гады жыцця падарункам яму стала жаночая прыгажосць, якая жыла ў душы, натхняла да творчасці, узвялічвала і вымушала быць ахвярным. На яго вачах расквітнелі, павыходзілі замуж, нарадзілі дзяцей пакаленні прыгажунь. І ён заўсёды быў блізка ці побач. Ён шчаслівы сваёй прысутнасцю ў іх жыцці. Цікава ўсё ж, з якімі словамі сто гадоў таму закладваўся падмурак гэтага прасторнага, з высокай столлю дома?

Пэўна, з таго самага часу пасялілася тут асаблівая аўра жаночай прыгажосці, якой нельга супрацьстаяць у любым веку.

Зачыняючы веснічкі, Максім зладзеявата азірнуўся па баках: «Аўра аўраю, але як бы выпадкова не атрымаць паленам па галаве...»

...Мужчына ішоў дамоў з працы. Калі з аўтобуснага прыпынка павярнуў на сваю вуліцу, то ўгледзеў наперадзе Святлану, якая вярталася з універсітэта. Дзяўчына была далекавата, але раптам пачала азірацца, краем вока заўважыўшы, што ззаду ідзе сусед. Яна прымеркавала, каб сустрэцца і павітацца ля самых веснічак. Святлана ўжо націснула на клямку, калі праз плот ад суседа пералезла іх светлая котка. Мурка перабегла дарогу, заскочыла на сваю агароджу і дала нырца ў акаймаваны кустамі каліны і бэзу двор.

На сцежцы дзяўчына яшчэ раз азірнулася і ўжо байчэй накіравалася да ганка, на прыступках якога яе чакала светлая котка...

***

Неяк атрымаўшы чарговую пенсію, Максім Васільевіч сустрэў у цэнтры горада былога калегу па працы Сяргея, якога даўно ўжо не бачыў. Сяргей амаль увесь час праводзіў на лецішчы за горадам, корпаючыся то ў зямлі, то нешта няхітрае майструючы... Сустрэчу «адзначылі» па старой звычцы: выпілі гарэлкі, пагаманілі...

Максім, апынуўшыся ў сваім доме, адразу пайшоў у ванны пакой. Ён любіў прымаць ванны, лежачы ў вадзе пад музыку, пад лёгкае цурчанне гарачай вады... На гэты раз Максім Васільевіч там моцна заснуў, паспеўшы прысніць некага з суседак... Ды толькі ўжо прачнуцца не змог, як не змог дагледзець прыемны сон...

*2023—2024 гг.*

# Трагедыя асобы — трагедыя народа. «Чырвоны крыж» Сашы ФІЛІПЕНКІ




...Шчыра кажучы, пачынаў я чытаць гэтую кнігу з насцярогай. Таму парушыў сваю традыцыю і зазірнуў спачатку туды, дзе льга было пачытаць водгукі чытачоў на гэты раман. Іх колькасць мяне ўразіла: больш за тры сотні! Кароткія, сціслыя, але ж у большасці для мяне — нечаканыя. І, паверце, зусім не таму, што ўхвальныя. Але іх сэнс: «Гэта жах! Гэта трэба чытаць! Мы гэта павінны ведаць! Гісторыя пранізвае болем. Якія трагічны лёс...»

Калі прачытаў кнігу, сеў думаць. Адкуль такія водгукі? Саша Філіпенка не адкрывае Атлантыду. Былі Салжаніцын, Шаламаў, наш Аляхновіч. Няўжо аўтары тых допісаў не чыталі іхнія творы?

І не чыталі — упэўнены я. Пра архіпелаг Гулаг чытала пакаленне, калі кнігі выходзілі ў самвыдаце і іх перадавалі з рук у рукі. І яшчэ тады, калі адкрыліся магчымасці — канец 80-х — пачатак 90-х мінулага стагоддзя. Тое пакаленне пра́гнула даведацца...

Сённяшнім 20—30-гадовым цікавыя іх сучаснікі. Яно і праўда — столькі аўтараў, столькі новых кніг. Трэба бы за імі паспець, а не занурвацца ў «макулатуру» мінулага.

Не чыталі. Таму кніга «Чырвоны крыж» і перыпетыі лёсу гераіні выклікалі такую эмпатыю. Мабыць жа, не ведалі многія, што такое было магчымым.

Кніга трымаецца на адной трагедыйнай нацягнутай струне, адзін канец якой замацаваны ў сталінізме, а другі сягае ажно ў наш час. Зусім невыпадкова аўтар робіць месцам дзейства Мінск — тут насамрэч ёсць за што замацаваць другі канец струны — за крыжы ў Курапатах. І гэтая струна — гераіня.

Помніце ж, калі смерць аднаго чалавека — трагедыя, дык смерць мільёнаў — статыстыка? Неяк так адбываецца з творамі, дзе тая самая трагедыя народа паказана праз лічбы і факты. І зусім па-іншаму пачынае гучаць аповед, калі ў ім — лёс толькі аднаго чалавека. Менавіта адсюль — эмпатыя. Саша Філіпенка абраў бяспройгрышны шлях, тым больш, што яго гераіня — жанчына.

Увогуле ж, калі казаць пра сам раман як тэкст, заўважу, што тут сапраўдная эклектыка. З аднаго боку — дакументы і факты, з другога — чалавечы лёс, з трэцяга — яскравы дэтэктыўны элемент. Агулам — такое вось журналісцкае расследаванне з некалькімі вобразнымі (а дзе і філасафічнымі) устаўкамі. Але менавіта такі мікс стыляў аказаўся самым прываблівым для чытача.

Ці важны гэты тэкст для грамадства, для самой літаратуры?

Па сутнасці, тэкст ні на што не паўплывае. У Салжаніцына і Шаламава былі мільёнwhose наклады кніг, але «чырвоны чалавек» нікуды не сышоў. Аднак гэта не скасоўвае таго, што гэтую сізіфаву працу трэба рабіць, што пра гэта трэба пісаць.

Я цвёрда перакананы: літаратура не павінна станавіцца агульнарасійскай дыктоўкай у канцы года, барочным глупствам, спаленай хаткай Прышвіна. Літаратура павінна быць лаканічнай і дакументальнай, у яе мусіць быць пэўная задача і адказнасць.

Па шчырасці, не ведаю, якую задачу ставіў перад сабой аўтар. Адзначу хіба адно: у нас не многа падобных кніг, у якіх трагедыя асобнага чалавека паказвала б трагедыю ўсяго народа. За лесам нябачна дрэў, але, пабачыўшы адно дрэва, можна нешта дадаецца пра лес. Міжволі згадваецца Васіль Быкаў і ягоныя героі, якія ставіліся ў цэнтр і чый лёс быў важнейшым для нас за ўсе іншыя ваенныя падзеі.

Галоўная гераіня ў Сашы Філіпенкі атрымалася жывой і яскравай, хоць і дарэшты (як для мяне) не заўсёды зразумелай у сваіх учынках. Але гэтыя няўцямнасці дадаюць ёй чалавечнасці, мушу прызнаць. Бо хто дарэшты зразумее жанчыну, той зразумее Бога...

Магутным атрымаўся фінальны эпізод. Якога не чакаеш і які стаўся апошнім цвіком у труну. Думкі і пачуцці, якія быццам бы ўжо ўкладаліся перад апошнімі радкамі, ўздымаюцца магутным віхурам — і ён адносіць цябе ў зусім нечаканы бок, пра існаванне якога ў кнізе раней не было і намёку.

Структура кнігі няпростая для чытання: то аўтар пра сябе, пасля пра гераіню ў трэцяй асобе, а вось зноў тэкст ад сябе, але ўжо словы гераіні... Дапамагае вёрстка, ды ўсё ж нязвычна. Як для мяне, тое не было навіной — так іншым разам будаваў сам сваё журналісцкія матэрыялы, расказваючы пра чалавека і даючы яму слова. Таму наўрад ці б назваў гэта мінусам кнігі.

Ёсць іншы важкі момант, якім упікалі аўтара: напалову фантастычная гісторыя з нараджэннем дачкі галоўнага героя. Заўважу, што і ў «Былым сыне» ёсць такі вось амаль неверагодны медыцынскі факт (з абуджэннем героя праз 10 гадоў). Па шчырасці, і мне напачатку гэты эпізод паказаўся мала што фантастычным, надуманым, дык яшчэ і спекуляцыйным. Маўляў, аўтар завабляе чытача, вымушае спачуваць, выціскае слязінку. Але, ужо пасля прачытання, раптоўна адкрываецца сімвалізм таго эпізоду. І скажу, ідэя гэтага сімвалу мяне ўразіла вельмі моцна. Не буду спойлерыць і навязваць вам сваё меркаванне адносна яго, цікава, ці супадуць яшчэ ў каго думкі з маімі.

Скажу адно хіба: думка, закладзеная ў сімвал «Чырвонага крыжа», цалкам супярэчыць думцы, якая хаваецца ў папярэдняй кнізе аўтара «Былы сын». Мяне цешыць тое, што да беларускага чытача гэтыя дзве думкі патрапілі менавіта ў такім парадку...

***В. Г.***

# Новае і цікава: «Псіхараман» Язэпа ГНІЛЯ




Мне сказалі, што гэта — андэграўнд. Канешне, я ўзяўся чытаць, бо чаго-чаго, а беларускага андэграўнду не чытаў. І ўпэўніўся, што «Псіхараман» — насамрэч андэграўнд.

Многія выхаваныя традыцыяналізмам чытачы назавуць прачытанае мной трызненнем вар'ята. Улічваючы той факт, што аўтар сусветнавядомай казкі пра вядомую дзяўчынку запісваў ейныя прыгоды пад добрай дозай пэўных рэчываў, сам стаўлюся і прашу іншых ставіцца да такіх трызненняў з вялікай павагай.

Прабачце, мушу сур'ёна заўважыць, маючы пэўны досвед: трызненні таго ж шызафрэніка маюць пад сабой настолькі выкшталцоную структуру, што не кожны пісьменнік і прыдумае. Я да таго, што трызненне, якое б было цікава некаму яшчэ, акрамя самога аўтара — мастацтва. Нездарма добры пісьменнік, які мусіць у сваю свядомасць умяшчаць у адзіны момант дзве-тры-чатыры асобы і ўяўны свет, павінен быць трошкі шызафрэнікам. Урэшце, магчымасць мысліць вобразна — ужо нечым хвароба. Дарэчы, аўтар гэтага тэксту для трызнення скарыстоўвае новае слоўца — трып, стан змянення свядомасці ад пэўных рэчываў.

Пакрысе (калі пачаў чытаць усё запар, без выбару) маё разуменне мастацкай літаратуры перастала мацавацца на сюжэце, героях, завязках-кульмінацыях-развязках і іншых класічных падпорках сацрэалізму. Думка аб тым, што літаратура ў першую чаргу — стыль, загучала ўсё мацней, пакуль канчаткова не выйшла на ўзровень вызначальнага фактару. Да стылю, канешне, дадаецца аўтаматам уменне карыстацца словам, збіраць са слоў сказы і абзацы, фармаваць прастору і думку. Якую ты мусіш разумець. Ці разгадаць...

Псіхараман — гэта стыль. Гэта нешта жывое, што пульсуе ў скронях, што адчуваеш сам, што зацягвае.

Галава баліць кожны раз па-рознаму, быццам ты прыходзіш на кірмаш, стаіш, размаўляеш з прадаўцом і дамаўляешся, гатовы стаць на калені, бы толькі твой боль уняўся, ну ці скінье хаця б паўдзялення ўніверсальнай шкалы галаўных боляў. Бо галаўны боль — гэта кірмаш. Галаўны боль не перадаецца па спадчыне, галаўны боль узнікае з прычыны. Калі трэба паказытаць сваё эга — прыдумаць, чым адметны я сёння, які ў мяне недахоп, які сёння вісіць, як дэкарацыя на маім целе, ну ці калі гэты недахоп нарэшце стрэліць, каб працягнуць і без таго паскудны сюжэт далей па рэйках, як вослік цягне вазок (сюжэцік пакуль што варты хіба што малога воза, нікчэмнага чарпачку ну ніяк не малой мядзведзіцы (усё вышэй пералічанае перадае парахавы-ўзрушаючы чалом Альдэбарану, свайму пакутліваму суседу, які кожнага разу, як я яго ўзгадваю, выскоквае з турмы дваяка-каардынатнай мары зорнага неба і шыпіць на мяне, што я зноў чорт ведае куды зайшоў)). Дык вось як на кірмашы. Стаіш на кавалку кардону, да чаго прывяла цэлая групоўка фактараў, пачынаючы малаадукаваным кардонамайстрам, які на кардоназаводзе дыміў трубамі з рота, пакрытага чалавечым потам, і трубамі з бетону, пакрытага едкім цэлюлозным кандэнсатам, скончваючы добрай воляй. Стаіш на кардонцы, якая сама магла быць кірмашом з найбагацейшым у Беластоку выбарам слядоў — чорных, шэрых, лічбавых і мачападцёчных. А перад табой стаіць грузная жанчына. Ну вы паспрабуйце боль ад тупога ўдару тыльнай часткай сякеры ў скронь падчас патрулю... Ён, канешне, на аўтарскі выраст, але вы насуньце, о які вы красунчык, ну слухайце, я нават зніжку зраблю, а хочаце — вось у нас ёсць яшчэ такі боль, завоз новы, гэта сасуд, трэба будзе з ім да доктара, з гэтым сасудам, ой. Сасуд лопнуў...

Два словы пра аўтара. Так, ён мне не вядомы, але пра яго льга што сказаць. Напачатку відавочна, што гэты твор з'явіўся як адказ на «Кінараман» Макса Шчура. Але па колькасці прозвішчаў, якія згадвае аўтар у тэксце, зразумела, што ён увогуле валодае цяперашняй літаратурнай сітуацыяй. Ён, пісьменнік, чытае пісьменнікаў. Выключэнне на наш час, згадзіцеся. Магчыма, ён малады, шукае сябе ў творчасці. І мне вельмі імпануюць такія паводзіны маладых: чытаць іншых. Бо Язэп Гніль — не адзіны такі, перачытайце інтэрв'ю з Дудко — проста ўражвае, аб колькіх аўтарах ён мае што сказаць, і яшчэ больш цікавае тое, што яму «па масці»: тут і мейнстрым, і класіка. Карацей, хлопцы ў тэме. Тое цешыць. У нас адзінкі сучасных мэтраў чытаюць тэксты сваіх братоў па розуме. Бо ж некалі, сваё пісаць трэба, дый які геній будзе чытаць пасрэднасцяў?

Тэкст Язэпа Гніля розны. Часам катэгарычны і з'едлівы, бескампрамісны. Часам панурысты, бязлітасны да сябе і іншых. Рэзкі, злы. Правакацыйны. Глыбокі.

Раман можна разглядаць як маніфест, а можна як адчай і ўскрык даведзенага да роспачы. Ускрык, у якім — зерне цвярозага розуму і боль.

А ну і пра пратэсты. Гэта рэальна — тое, да чаго вы імкнецеся? Літаратура пра другую сусветную? Гэта літаральна ВАВ. Мы будзем абсмоктваць палітэкаў як ветэранаў? Пісаць, якія мы героі, а потым яшчэ і пра тое, што а раптам мы не маем рацыі і цэнзура задушыць. І праз сто гадоў на юбілейным маршы людзей з неабмежаванымі магчымасцямі будуць чытаць вершы з'ехаўшых паэтаў у чорную ноч? Проста ёсць мяжа, калі літаратура пра нацыянальную траўму перарастае з нішавай андэграўнднай ...ні, якая прадаецца ў Берліне, пра тое як марксізм і алігархі задушылі народны ўздым. Наступная стадыя — вашыя кніжкі пра вайну прасоўваюць амбасады, па іх матывах робіцца музеі. Тады ўсе разумеюць, што дзесяць апавяданняў пра пратэсты — гэта чарговая літаратура...

Дадам, што гэтай тэме прысвечаны добры кавалак тэксту названай кнігі, і ён варты ўдумлівага прачытання.

Па праўдзе, пісаць пра гэты тэкст вельмі няпроста, дый не стану спрабаваць. Галоўнае для мяне: гэта было новае і чытаць гэта было цікава. У любым разе, жаданне адкінуць прэч не ўзнікала, хоць былі два-тры моманты сапраўднага трэшу, антыэстэтыкі, але розумам адчуваў, што тут неабходна ўключаць асацыятыўнасць, шукаць падтэкст...

Аўтар умее тое, што павінен умець пісьменнік: пісаць. Ягоны тэкст выверaны, ён валодае словам у той меры, каб чытачу не даводзілася паўзці па старонках і спатыкацца аб дурнаватыя канструкцыі, недасканаласць пабудовы. Ён піша, каб мне было льга бачыць і разумець. Які свет будуе аўтар і якія ідэі прасоўвае — ягонае неаспрэчнае права.

А вось згаджацца ці адпрэчваць — гэта якраз неаспрэчнае права чытача.

Кажу: добра, што ёсць такая ў нас проза. І яшчэ болей грэе тое, што ёсць аўтары, якія чытаюць іншых.

***В. Г.***

## Міжнародная прэмія імя Бёрнса

Роберт Бёрнс (1759—1796) — выдатны шатландскі паэт-рамантык і фалькларыст. Яго яркую творчасць ведаюць ва ўсім свеце. Дзень нараджэння Роберта Бёрнса з'яўляецца нацыянальным святам у Шатландыі.

Па прапанове Міжнароднай акадэміі літаратуры, мастацтва і камунікацыі і Сусветнай асацыяцыі «Глорыя» «за выдатную творчую працу» прэміяй імя Бёрнса ўзнагароджаны Вольга Сота (Партугалія), Сагін Беркіналіева (Кыргызстан) і Аляксандр-Ошэр Штэйнберг (Ізраіль).

## Кнігі года польскай секцыі IBBY

Журы ўзнагародзіла ў літаратурнай катэгорыі конкурсу «Кніга года 2024» Польскай секцыі кніг IBBY (Міжнароднай рады па дзіцячай і падлеткавай літаратуры) Цэзарыя Гарасімовіча за кнігу для малодшых дзяцей «Хлопчык з лесу» і Раксану Енджэеўску-Урубэль за кнігу для падлеткаў «У краіне сноў». Літаратурныя ўзнагароды




ў конкурсе атрымалі таксама Агнешка Дамброўска за кнігу «Занадта вялікі для казак», Богуш Янішэўскі за «Кнігу пра наркотыкі», Вальдэмар Кулігоўскі за кнігу «Як вымераць свет?», Рэната Пянткоўска за кнігу «Як гэта пачалося? Міфы аб стварэнні свету» і Катажына Самасей за кнігу «Навошта, або што рухае намі».

## Шарджыйская прэмія дзіцячай літаратуры

Мэта прэміі — пошук таленавітых тэкстаў і ўзбагачэнне імі дзіцячых бібліятэк. На працягу шаснаццаці гадоў у Шарджы (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты) праходзіць Фестываль дзіцячай літаратуры (Sharjah Children's Reading Festival). Арганізатары фестывалю зазначаюць, што «імкнуцца развіваць у дзяцей цягу да чытання, а таксама павышаць стандарты кніжнай індустрыі». Прэмія ў галіне дзіцячай літаратуры (The Sharjah Children's Book Award) непасрэдна звязаная з фестывалем, заклікана дапамагчы аўтарам у распаўсюджванні іх кніг. Намінацыі прэміі: дзіцячая кніга на арабскай мове (для дзяцей ад 4 да 12 гадоў), дзіцячая кніга (для дзяцей ад 7 да 13 гадоў), кніга для падлеткаў на арабскай мове (для падлеткаў ад 13 да 17 гадоў). Прызавы фонд прэміі ў кожнай намінацыі складае 20 000 дырхамаў ААЭ (≈5500 €).

## Невядомыя рукапісы фінскага класіка

У Выбарзе ў драўляным доме 1840 года пабудовы былі знойдзены старонкі з сшытка з вершамі Ёхана Людвіга Рунэберга (1804—1877), класіка літаратуры Фінляндыі XIX стагоддзя.

Аднапавярховы дом у цэнтры Выбарга (па-фінску — Вііпуры), які знаходзіцца насупраць руінаў старога Кафедральнага сабора, належаў калежскаму асэсару Пэру Урсіну. Пачынаючы з 1809 года Урсін працаваў у губернскай канцылярыі. Як вядома, Фінляндыя ўваходзіла тады ў склад Расійскай імперыі.

Ёхан Людвіг Рунэберг — адзін з апошніх еўрапейскіх рамантыкаў, чалавек моцнай волі і трагічнага лёсу. Ён жыў у Фінляндыі, пісаў на шведскай мове і ў той жа час амаль усё сваё жыццё з'яўляўся расійскім падданым. Рунэберг у свой час быў вельмі паважаным чалавекам: імператар Мікалай I даў яму тытул прафесара і пажыццёвую грашовую дапамогу, Аляксандр II узнагародзіў ордэнам св. Ганны 2-й



ступені і ўзвёў у чын доктара багаслоўя, а ў 1876 годзе паэт быў абраны ганаровым членам Расійскай Акадэміі Навук.

Сучаснікі называлі Рунэберга першым нацыянальным паэтам. Дагэтуль словы гімна Фінляндыі — гэта словы яго балады «Наш край» (1847).

Дзень нараджэння паэта — 5 лютага — з'яўляецца нацыянальным святам — Днём Рунэберга, калі ў школах праходзіць урок «сапраўднай літаратуры», а ў сем'ях Фінляндыі пякуць рунэбергскія пірожныя.

Згаданыя старонкі з вершамі вядомага фінляндскага паэта Ёхана Людвіга Рунэберга, як распавёў Глеб Пятроў, суўладальнік дома Пэра Урсіна, ён заўважыў на адной са сцен. Потым сталі «адкрывацца» і іншыя, да таго не заўважаныя паперы: «У нас у гасцях была знаёмая, якая валодае шведскай мовай, якая і сказала, што на сцяне ёсць вершы. Але каму яны могуць належаць, яна не ўяўляла. А гэтым летам да нас у дом патрапіў лінгвіст са Стакгольма. Я паказаў яму гэтыя вершы, і ён сказаў, што іх аўтар — Ёхан Людвіг Рунэберг, і гэта яго пераклад сербскіх народных песняў. Гэтыя песні сабраў у свой час Вук Караджыч, вядомы рэфарматар сербскай мовы, затым іх пераклаў на нямецкую мову П. П. Гётц, а ўжо з нямецкай яны былі перакладзены на шведскую Рунэбергам. Так мы зразумелі, што ў нас у доме ёсць рукапісныя вершы вядомага фінскага паэта».

Такім жа чынам былі выяўленыя яшчэ два вершы паэта: «Малітва» і «Шчаслівы травень».

Як маглі патрапіць у Выбарг тыя рукапісы паэта, які ніколі не бываў у Выбаргу? Вывучаючы мясцовыя газеты сярэдзіны XIX стагоддзя, высветлілі, што Пэр Урсін здаваў частку дома ў арэнду Эдварду Эльфстрому, перакладчыку паэзіі Рунэберга на нямецкую мову. Рукапісы Рунэберга і патрапілі да яго. Эльфстром захоўваў іх, але з нейкіх прычынаў забыўся на іх ці страціў. А падчас рамонту ў 1863 годзе ўсе старыя паперы, якія захоўваліся ў доме, былі выкарыстаны ў якасці матэрыялу для аклейвання сцен...

## Кнігі ў Расіі падаражэюць

Выдавецтвы вымушаны пайсці на павышэнне коштаў папяровых кніг у 2025 годзе на 7—10%. Гэта абумоўліваецца, як тлумачаць расійскія друкары, падаражэннем вытворчасці кніг. Напрыклад, кошт паліграфічных паслуг у лістападзе мінулага года вырас на 20%. «У той жа час друкарні чакаюць падаражэння паперы і іншых матэрыялаў, маркетплэйсы абвясцілі аб росце камісій, а таксама вырас кошт лагістычных паслуг больш чым на 20%», — распавяла крыніца «Коммерсанта» на кніжным рынку. Гендырэктар «Эксмо» Яўген Капʼёў паведаміў у каментары выданню, што гэтая выдавецкая група збіраецца павысіць кошты на кнігі ў сярэднім на 7%. У выдавецтве «АСТ-Азбука» цэны на кнігі маюць намер павысіць на 5—10%. Гендырэктар групы Таццяна Горская патлумачыла, што кампанія старалася стрымліваць рост коштаў на працягу года, аднак ва ўмовах далейшага падаражэння паперы «гэта не ўяўляецца магчымым».

## Джоан РОЎЛІНГ: зноў скандал

Брытанская пісьменніца Джоан Роўлінг, вядомая як аўтар серыі кніг пра Гары Потэра, зноў апынулася ў цэнтры скандалу з-за сваіх выказванняў пра трансгендэраў. У сацыяльнай сетцы X яна выказала меркаванне, што «дзяцей-транссэксуалаў не існуе», што выклікала хвалю крытыкі. Літаратарка напісала: «Не бывае дзяцей, якія нараджаюцца ў няправільным целе. Ёсць толькі дарослыя, якія гатовыя ахвяраваць здароўем падлеткаў дзеля ідэалогіі, якая прыносіць больш шкоды, чым лабатамія». Сваю пазіцыю яна патлумачыла на прыкладах. Паводле яе слоў, школы часта хаваюць гендэрную ідэнтычнасць дзяцей ад бацькоў, а дабрачынныя арганізацыі дасылаюць дзяўчынкам-падлеткам біны для грудзей без згоды іх сем'яў. Джоан Роўлінг падкрэсліла, што многія бацькі вымушаныя маўчаць, калі іх дзеці падвяргаюцца прапагандзе мадыфікацыі цела.

Меркаванні карыстальнікаў сацыяльных сетак наконт гэтага падзяліліся. Некаторыя нагадалі, што большасць дарослых транссэксуалаў былі дзецьмі-трансгендэрамі, і адмаўленне гэтага толькі ўскладняе ім доступ да падтрымкі. Іншыя ж, наадварот, пагадзіліся з Роўлінг, заявіўшы, што бацькі часта могуць няправільна трактаваць інтарэсы або паводзіны дзяцей.

Гэта не першы раз, калі Джоан Роўлінг сутыкнулася з нападкамі за свае заявы. У 2020 годзе яна выказала абурэнне з нагоды выкарыстання тэрміна «людзі, якія маюць менструацыю» ў артыкуле на тэму роўнасці. На яе думку, такія фармулёўкі сціраюць паняцце жаноцкасці. Пісьменніца працягвае настойваць на сваіх перакананнях, нават нягледзячы на жорсткую крытыку. Яе пазіцыя неадназначна выклікала бурныя дыскусіі ў грамадстве.

## Біблія і Тэхас

У тэхаскіх школах забараняюць Біблію... Незалежная школа Canyon была вымушана прыбраць усе копіі свяшчэннай кнігі са сваіх паліц з-за новага закона штата аб творах «відавочна сэксуальнага» зместу. Такое неадназначнае рашэнне абурыла многіх членаў хрысціянскіх суполак. Чакаецца, што новы закон выкліча падобную праблему на ўсёй тэрыторыі Злучаных Штатаў. Напрыклад, у Айдаха хрысціянскія групы актыўна заахвочваюць частае чытанне Бібліі ў дзяржаўных школах, і навіна з Тэхаса выклікала раздражненне.

Бацькам навучэнцаў незалежнай школы Canyon раяць браць Біблію ў іншым месцы. «Мне здаецца абсурдным, што разам з нецэнзурнымі забаранілі і духоўную кнігу, — прызналася Рэгіна Кінэ, маці двух вучняў школы. — Даступнае Божае Слова для нашых дзяцей можа не толькі прадухіліць гвалт, але таксама забяспечыць камфорт і пачуццё бяспекі ў хаатычным свеце».

## Уладальнікі сабак — аматары дэтэктываў

«Яндэкс Кнігі» сумесна з Інстытутам Чалавека вызначылі асаблівасці літаратурнага вопыту чытачоў. Сёння аўдыёкнігі выбірае кожны другі, а ў топе папулярных жанраў класічная літаратура, дэтэктывы і гісторыя.

52% апытаных слухаюць творы дома ў вольны час, 46% — паралельна займаючыся іншымі справамі, напрыклад, уборкай або гатаваннем, а 38% — у ложку перад сном. Дарэчы, перад сном, калі верыць дадзеным апытання, чытаюць 65% расіян. Больш за палову тых, хто чытае па вечарах ці ноччу, выбіраюць дэтэктывы — у электронным, друкаваным і аўдыёфармаце.

Гэты жанр таксама папулярны сярод уладальнікаў сабак — яму аддаюць перавагу 58% сабачнікаў. У аматараў рыбак на першым месцы топа — класічная літаратура. І слухаюць, і чытаюць кнігі расіяне найперш у тых месцах, дзе можна расслабіцца. Напрыклад, кожны дзясяты робіць гэта падчас прыняцця ванны.

Для 67% расіян, якія чытаюць у бібліятэках, важныя самарэалізацыя і развіццё. Тыя, хто звычайна слухае аўдыёкнігі ў транспарце і падчас заняткаў спортам, часцей выбіраюць жанры класіка і фэнтэзі.

«Жыхары Расіі чытаюць кнігі ў самых розных фарматах — часцей за ўсё гэта папяровыя кнігі (76% апытаных), але многія таксама чытаюць у электронным выглядзе (67%) і слухаюць аўдыё (49%). У цэлым, прадстаўленыя дадзеныя адлюстроўваюць дыверсіфікацыю рынку кніжнай прадукцыі і не сведчаць аб дамінаванні аднаго фармату над іншымі. Наадварот, гэта сведчыць аб тым, што ў кожнага ёсць свая ніша і свая аўдыторыя», — пракаментавала апытанне Маргарыта Абрамкіна, дырэктар па працы з кліентамі. Апроч іншага, у расейцаў, якія чытаюць, ёсць свае кніжныя рытуалы, якія збольшага звязаныя з адрозненнямі пакаленняў. «Зумераў, міленіялаў і бумераў» аб'ядноўвае звычка абмяркоўваць прачытанае з блізкімі. Усе яны, так ці інакш, абменьваюцца кнігамі — аднак міленіялы і бумеры робяць гэта больш актыўней.

Адметнай рысай маладога пакалення стаў рытуал вылучаць радкі ў кнігах і выпісваць цытаты — так робяць 28% зумераў. Сёння для гэтага можна нават не браць у руку аловак: у многіх кніжных сэрвісах ёсць спецыяльная функцыя для выдзялення ўпадабаных цытат. Усе яны аўтаматычна збіраюцца ў адным раздзеле ў дадатку, каб можна было вярнуцца да патрэбнай цытаты ў любы момант. Яшчэ ўсе тры названыя пакаленні аб'ядноўвае цікавасць да класічнай літаратуры. Зумерам таксама блізкія псіхалогія і фэнтэзі, міленіялам — дэтэктывы, а бумерам — дэтэктывы і гістарычныя кнігі. Дарэчы, звычайна расейцы, якія дораць кнігі, выбіраюць для іншых дэтэктывы, гісторыю і фэнтэзі. Пры гэтым кнігі пра здароўе часцей дораць тыя з іх, хто аддае перавагу чытанню падчас ежы. Творы пра гістарычныя падзеі выбіраюць звычайна мужчыны — імі цікавіцца кожны другі чытач. У той жа час кожны дзясяты мужчына, які чытае, аддае перавагу кнігам у жанры рамантыкі. Жанчыны (78%) часцей за мужчын (62%) чытаюць кнігі з дзецьмі. Апытаныя бацькі, як правіла, выбіраюць творы для такога сумеснага баўлення вольнага часу або па прыхільнасцях дзіцяці (71%), або тыя кнігі, якія яны самі любілі ў дзяцінстве (62%).

